PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 15 (2239) Год XLIV Беласток 11 красавіка 1999 г. Цана 1,20 зл.

*Спакойнага і радаснага Вялікоднага святкавання ўсім чытачам жадае рэдакцыя „Нівы".*

## Епіскап Беластоцкі і Гданьскі Іакаў

30 сакавіка 1999 г. рашэннем Свята-га Сабора Епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы епіскапам Беластоцкім і Гданьскім назначаны Іакаў — епіскап Супрасльскі, намеснік Супрасльскай лаўры.

Уладыка Іакаў (у міры Якуб Касцючук) нарадзіўся ў 1966 г. у Нарве. Пасля заканчэння падстаўовай школы вучыўся ў Беластоцкім электрычным тэхнікуме, а потым нейкі час працаваў электрыкам. У 1987 г. прыняў першы манаскі постыг і быў рукапалажаны ў дыяканы. У гэтым жа годзе быў накіраваны ў Маскоўскую духоўную акадэмію ў Троіца-Сяргіевым Пасадзе, якую закончыў у 1992 г. і атрымаў званне магістра праваслаўнай тэалогіі. У 1989 г. быў рукапалажаны ў іераманахі, а ў 1993 г. даў манаскія абяцанні і прыняў пострыг у схіму. 26 сакавіка 1998 г. быў пакліканы на епіскапа Супрасльскага, а 11 мая гэтага ж года — хіратанізаваны. З 1995 г. пачаў навуковую працу ў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве як асістэнт на Кафедры дагматычнага багаслоўя і этыкі. Быў духаўніком Кірыла-Мяфодзіеўскага брацтва, а цяпер ягонай апецы даручана ўся праваслаўная моладзь.



Епіскап Іакаў замяніў на епіскапскім прастоле мітрапаліта Саву, які 18 гадоў узначальваў Беластоцка-Гданьскую епархію. Урачыстае ўвядзенне ўладыкі Іакава на епіскапскую кафедру адбудзецца 22 мая г.г. у Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку.




— Памятаю супрацьдзеянні тадышніх улад і міліцыі, якая запалохала ўсю вёску і гэта пайшло на Беласточчыну...

# Няма праблемы — ёсць праблема?

Ганна КАНДРАЦЮК

**У Сейме якраз вядуцца спрэчкі вакол закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях. Праект прадбачвае ўвядзенне моў нацыянальных меншасцей у дзяржаўную адміністрацыю ды афіцыйныя надпісы. Ніжэй прыводзім выказванні чыноўнікаў і грамадскіх дзеячаў пра магчымасць афіцыйнага заіснавання беларускай мовы ў гмінах і гарадах Беласточчыны.**

— У нас 80% ёсць па-свойму, — кажа **Міхал Іванчук**, войт гміны Орля. — А калі нехта прыходзіць і хоча па-польску, не бачу праблемы — таксама можна!

Арлянскі войт аднак супраць афіцыйнага двухмоўя.

— Навошта там у Варшаве на сілу прыдумваюць нам праблемы, — хвалюецца Міхал Іванчук. — У мяне ёсць і так што мяняць, напрыклад, нідзе ўжо ў Польшчы не сустрэнеце такіх назваў вуліц: 1-га Мая, Вызвалення, Чырвонай Арміі, Партызанаў. Нашы „крыкуны" (апаненты войта — Г. К.) напэўна захочуць памяняць гэтыя назвы, але мне асабіста яны не мяшаюць.

***— Чаму не хочаце, каб беларуская мова, як і польская, стала афіцыйнай у вашай гміне?***

— Мы тут у Орлі гаворым па-свойму, на дыялекце. Трэба было б правадзіць курсы для чыноўнікаў, каб засвоілі літаратурную мову і пісьменнасць.

Паводле войта абазначае гэта дадатковыя кошты.

— Я сам не буду нічога мяняць, дабівацца. Няма такой праблемы, — чую на развітанне.

— Людзі хочуць лепшага жыцця а не змен назваў мясцовасцей, — кажа пра праект закона войт гміны Гайнаўка і заадно старшыня Рады Гайнаўскага павета **Вольга Рыгаровіч.**

Пані войт супраць афіцыйнага двухмоўя.

— Вядома і так, што ў гміне можна дагаварыцца па-свойму. Я сама, калі бачу людзей са сваёй вёскі, першая пачынаю размаўляць з імі па-беларуску, — кажа В. Рыгаровіч.

***— А калі б нехта звярнуў вам увагу, што так гаварыць нельга, бо беларуская мова нелегальная?***

— Маем дэмакратыю, — кажа пані войт, — кожны мае права гаварыць як хоча.

Паводле Вольгі Рыгаровіч, звяртаем увагу на справы малыя, няважныя і такім чынам уцякаем ад вялікіх, асноўных. Самай вялікай на сённяшні дзень праблемай, на думку войта, з'яўляецца рэформа беларускіх пачатковых школ і гімназій.

— А гутаркі пра двухмоўе могуць толькі знерваваць ды насцярожыць жыхароў вёсак, — дадае В. Рыгаровіч.

— Закон пра нацыянальныя і этнічныя меншасці непатрэбны, — кажа **Станіслаў Федаровіч**, войт гміны Шудзялава. — У будынку гміны ў Шудзялаве наадварот як у Орлі, амаль усё па-польску. А калі нехта прыходзіць і хоча па-беларуску, няма праблемы — таксама можна! Бо ў нас ёсць таксама жыхары, якія **z racji wyznania czują się Białorusinami**. Хаця мы ўсе тут гаворым на про-

[працяг ☞ 3]

## Выбары ў Беларусі

Як на практыцы будуць выглядаць майскія выбары — дзяржаўная ж адміністрацыя не дазволіць адчыніць выбарчыя ўчасткі? Цэнтральная выбарчая камісія разглядае некалькі сцэнарыяў, адзін з якіх прадугледжвае наведванне з урнай кватэраў грамадзян Беларусі.

[шырэй ☞ 2]

## Мяняецца Велікодная традыцыя

На другі дзень Вялікадня маці рыхтавала валачобнае — падарунак з яек і ласункаў для дзяцей. Хроснікі і хросніцы атрымоўвалі па чатыры яйкі, а дзеці сваякоў — па два.

[болей ☞ 3]

## Меншасці ў сябе

16 сакавіка г.г. у будынку Ваяводскай управы ў Ольштыне адбылося першае пасяджэнне Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Сейміка Вармінска-Мазурскага ваяводства. Гэта адзіная ў дзяржаве такая камісія. Пры маршалку гэтага ж ваяводства працуе адзіны ў дзяржаве ўпаўнаважаны па справах нацыянальных меншасцей.

[выключэнне ☞ 4]

## Беларуская філалогія ў Любліне

1 кастрычніка 1993 г. пачаліся заняткі на першым курсе беларускай філалогіі Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай. Найбольш праблем было з камплектаваннем бібліятэкі. На жаль, ні Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве, ні Фонд беларускай культуры, ні іншыя беларускія ўстановы і арганізацыі не аказалі ніякай дапамогі. Патрэбныя падручнікі і слоўнікі выкладчыкі і студэнты вымушаны былі шукаць у букіністычных кнігарнях альбо прывозіць з Мінска.

[прэзентацыя ☞ 8]

## Ікона св. Дзімітрыя ў Саках

Паводле легенды, некалькі стагоддзяў таму адзін з жыхароў Сакоў трапіў у турэцкую няволю і працаваў там у пякарні. Хлебная печ у ёй закрывалася драўлянай дошкай, якая ў сапраўднасці была іконай св. Дзімітрыя (вернікі ісламa былі лютымі ворагамі ікон). Аднойчы нявольніку ў сне з'явіўся юнак, які прасіў узяць ікону з сабою.

[нарыс ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Экзамен на сталасць беларускай нацыі

Як вядома з гісторыі, у старадаўнасці людзі былі так званымі язычнікамі. Яны пакланяліся бажкам-ідалам (фігурам, статуям-балванам).

Відаць, цяжка ды балюча было глядзець на гэта нашаму Нябеснаму Тварцу, і Ён (па сваёй вялікай любві да нас) рашыў прыадчыніць заслону сваёй Вялікай Божай Таямніцы, паслаўшы на Зямлю дзеля правучання ды выратавання роду людскога свайго адзінароднага Сына — Ісуса Хрыста.

З таго далёкага часу прайшло ўжо два тысячагоддзі.

Аднак, хоць мы фармальна і прылічваем сябе да хрысціян, ад пэўнай часткі з нас пакуль што ўсё яшчэ фактычна папахвае душком язычніцтва.

Грэбуючы Божымі Запаветамі, сучасныя людзі нярэдка знаходзяць сабе жывых бажкоў-ідалаў, на якіх неразважліва ўскладаюць усе свае надзеі-спадзяванні.

Так, легкадумна аддаўшы ўладу ў рукі аднаго чалавека, наша Беларусь дажылася да нечуванага абсурду, стала пасмешышчам цывілізаванага свету.

Цяперашні лукашэнкаўскі рэжым на Беларусі — гэта, вобразна кажучы, своеасаблівае густое сіта, праз якое за час існавання гэтага рэжыму самым грунтоўным чынам прасеялася наша сучаснае грамадства (зерне адлучана ад мякіны, ад шалупіння).

У выніку гэтага на дзяржаўным узроўні ў грамадстве пышна разраслася, забуяла сістэма ўсеагульнай хлусні, зняўвага правоў чалавека і яго годнасці, беззаконнасць, амаральнасць, хамства, падхалімства, вераломства, масавае бессаромнае прыстасаванства, нечуваная дагэтуль агрэсіўнасць ды некаторыя іншыя негатыўныя з'явы.

Прэзідэнцкія ўказы, нібы тыя прусакі, беспардонна залазяць ва ўсе шчыліны нашага сучаснага бяспраўнага жабрацкага жыцця. Калі так пойдзе і далей, дык не выключана, што прызначэнне ды звальненне прыбіральшчыц грамадскіх туалетаў будзе ў нас адбывацца па прэзідэнцкіх указах.

Два гады таму ў артыкуле „Маліся, Беларусь, за Фенікса-Ельцына, калі ты адрынула Пазьняка і адцуралася ад яго!" („Ніва", № 6 ад 9 лютага 1997 года) я сцвярджаў, што „Прэзідэнцтва ж Лукашэнкі на Беларусі — гэта ўсяго толькі прыкры, вельмі сумны і ганебны перыяд у яе гісторыі, хоць і з'яўляецца заканамернай з'явай, бо на гэта ёсць Божая Воля і Ягоны Промысел. Гэты Божы Промысел мае на ўвазе мэту пакараць беларускі народ за амаральнае і нават злачыннае нежаданне ці няўменне належным чынам скарыстаць Незалежнасць, падораную Беларусі Усявышнім у 1991 годзе. Гэты Промысел дае народу пэўны час, каб яму стацца відушчым і для абуджэння ў яго нацыянальнай самасвядомасці, станаўлення сапраўды жыццяздольнай беларускай нацыі".

Сёння, калі да канца прэзідэнцкага тэрміну засталося менш паўгода, поўнага банкруцтва рэжыму Лукашэнкі можа не разумець хіба што толькі поўны дэбіл, можа не бачыць толькі сляпы ды не чуць толькі глухі.

У нашай краіне да гэтага часу прэзідэнцкаю ўладаю ўсё яшчэ цалкам ігнаруецца слушнае выслоўе: „Без шырокага права прыватнай уласнасці ў дзяржаве не быць ні парадку, ні яснасці". Не моцная рука з гумавай дубінкай патрэбна сёння Беларусі, а светлая разумная ды мудрая галава з Божай харызмай. Вось толькі, ці хопіць у нас розуму адшукаць яе?

Больш разумныя людзі (як, дарэчы, і нацыі) звычайна вучацца на чужых памылках, адсталыя ж — не здольны рабіць адпаведныя высновы нават са сваіх уласных. Няўжо беларусы адносяцца да апошніх?

Прыкметная актывізацыя апошнім часам рабочага ды прафсаюзнага руху ў нашай краіне; кансалідацыя ўсіх апазіцыйных рэжыму партый ды рухаў, прадэманстраваная на 2-ім Кангрэсе дэмакратычных сілаў; пазітыўныя ініцыятывы — пачынанні легітымнага Вярхоўнага Савета 13-га склікання ды перспектыўнага Маладога фронту абнадзейваюць.

А прызначаныя легітымным Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 13-га склікання чарговыя выбары прэзідэнта на 16 траўня гэтага года з'яўляюцца сур'ёзным экзаменам на сталасць нашага народа, сучаснай беларускай нацыі.

Дай жа Бог нашаму народу гэты экзамен вытрымаць з годнасцю ды ўжо з першай спробы, каб непрыемнай ды непажаданай пераэкзаменоўкі пазбегчы ў будучым.

Галоўнае сёння, як мне здаецца, — перамагчы страх, які моцна запаланіў розум, сумленне ды волю многіх беларусаў.

Ну і дае рэжым наш маху:
Усё трымае ён на страху.
Аднак, як толькі пройдзе страх,
Рэжыму тут жа прыйдзе крах!

Хоць і парадаксальна, але факт: за беларускую свабоду, незалежнасць, мову, культуру ды дэмакратыю некаторыя рускія па паходжанні на Беларусі змагаюцца больш самааддана, самаахвярна, па-рыцарску, чым мы, карэнныя беларусы. Тут я маю на ўвазе, перш за ўсё, зразумела, нашых шаноўнейшых Валерыя Аляксеевіча Шчукіна, Лявона Пятровіча Баршчэўскага ды Алега Анатольевіча Трусава.

Няўжо навейшай гісторыі ў сваіх аналах назаўсёды прыйдзецца зафіксаваць, што ў беларусаў і сапраўды „паехаў дах", што яны канчаткова ды беспаваротна „з'ехалі з глузду?!"

**Алесь Ляскоўскі**

## Зоркі Галівуда п'юць беларускую гарэлку

Афіцыйна адабраным моцным напоем, які пілі зоркі Галівуда на 71-х урачыстасцях уручэння „Оскараў" была гарэлка вытворчасці Мінскага віна-гарэлачнага завода „Крышталь" пад назвай „Усяслаў Чарадзей".

Згодна паведамленням беларускай газеты „Звязда" ад 17 сакавіка, такую інфармацыю падала амерыкана-беларуская імпартна-экспартная кампанія, якая займаецца пастаўкай „Усяслава Чарадзея" за акіян. **(зк)**

## Выбары ў Беларусі

26 сакавіка г.г. закончыўся тэрмін здачы подпісаў у падтрымку кандыдатаў на пост прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 31 сакавіка Цэнтральная выбарчая камісія зарэгістравала двух кандыдатаў — Міхаіла Чыгіра і Зянона Пазьняка. На аснове канстытуцыі 1994 г. тэрмін правядзення прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі вызначаны быў на 16 мая 1999 г. Тая ж юрыдычная аснова дае магчымасць Цэнтральнай выбарчай камісіі пачаць галасаванне на 10 дзён раней, г.зн. 6 мая.

Дзейнасць Цэнтральнай выбарчай камісіі з Віктарам Ганчаром на чале спрычыніла Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праблему — перш за ўсё юрыдычнага характару. З кожнай апазіцыяй можна ўлажыцца — даць ёй магчымасць кар'еры ў палітыцы, дыпламатыі, бізнесе або маргіналізаваць яе ў вачах грамадства. Але як быць, калі гэтая апазіцыя намерваецца змяніць кіраўніцтва краіны легітымным шляхам? Легітымнасці Цэнтральнай выбарчай камісіі ніхто не пазбавіў. Камісія складаецца з 19 членаў, а ў падрыхтоўку выбараў ангажавалася прыблізна 15 тысяч чалавек. Нейтралізаваць такую колькасць людзей няпроста з практычных прычын. Пра сур'ёзнасць сітуацыі сведчыць і адмысловы дакумент, падрыхтаваны, як мяркуецца, у Савеце бяспекі — „План противодействия группе лидеров радикальной оппозиции по подготовке антипрезиденцких выборов президента РБ".

26 сакавіка г.г. госцем Уніі маладых Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча-Беларусь" быў прадстаўнік Цэнтральнай выбарчай камісіі на Магілёўскую вобласць Сяргей Абадоўскі.

— Спачатку членам ЦВК інкрымінавалася змова з намерам захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, — сказаў С. Абадоўскі на прэсканферэнцыі, — за што пагражае 8-12 гадоў турмы. Цяпер інкрымінуецца ім прысваенне звання дзяржаўнай асобы, хуліганства, непаслухмянасць міліцыі.

Паводле С. Абадоўскага, вылучэнне Цэнтральнай выбарчай камісіі адбылося з пашанай закона — няма юрыдычных асноў для праследу яе членаў, а захоп улады праведзены быў А. Лукашэнкам у выніку сфальшавання рэферэндуму 1996 г.

Як на практыцы будуць выглядаць майскія выбары — дзяржаўная ж адміністрацыя не дазволіць адчыніць выбарчыя ўчасткі? Цэнтральная выбарчая камісія разглядае некалькі сцэнарыяў, адзін з якіх прадугледжвае наведванне з урнай кватэраў грамадзян Беларусі. Узнікае тут пытанне верагоднасці такога галасавання і яго вынікаў — дзеля гэтага Камісія запрашае назіральнікаў (таксама і замежных) сачыць за ходам выбараў. Для важнасці саміх выбараў неабходна, каб свае галасы аддала палова грамадзян і адзін чалавек. Калі ніводзін кандыдат не набярэ больш паловы галасоў, выбары павінны паўтарыцца праз два тыдні. Калі б па нейкіх прычынах выбары мелі не адбыцца, дык — паводле канстытуцыі 1994 г. — тэрмін правамоцтваў прэзідэнта А. Лукашэнкі заканчваецца 20 ліпеня г.г. і галавой дзяржавы становіцца Сямён Шарэцкі.

Адносіны міжнароднай супольнасці да Рэспублікі Беларусь неадназначныя. З аднаго боку супольнасць гэтая падтрымлівае дыпламатычныя зносіны з Беларуссю, што з'яўляецца найлепшым пацвярджэннем легітымнасці цяперашняга кіраўніцтва, а з другога — не адмаўляе легітымнасці і Вярхоўнаму Савету 13 склікання ды створаным ім структурам (Цэнтральная выбарчая камісія). Унутраная палітычная барацьба ва ўмовах няроўнасці шанцаў (манаполія на сродкі масавай інфармацыі) па-за ўвагай пакідае эканоміку краіны, адсутнасць рэформаў якой усё больш паглыбляе адсталасць Беларусі не толькі ад высокаразвітых краін, але і найбліжэйшых яе суседзяў.

**Аляксандр Максімюк**

## Двухгаловы арол у Свіслачы

Каля дзесяці тысяч чалавек прынялі ўдзел у святкаванні Дня Беларускай Народнай Рэспублікі 28 сакавіка ў Мінску.

Калона дэманстрантаў прайшла па цэнтры беларускай сталіцы. Каб выказаць свае адносіны да спроб далучыць Беларусь да Расіі, удзельнікі шэсця патапілі ў Свіслачы жалезнага двухгаловага арла.

На мітынгу, які адбыўся каля Опернага тэатра, да ўжо традыцыйных прамоў дадаліся выказанні пра небяспеку, якую можа прынесці для Беларусі магчымае вяртанне расійскай ядзернай зброі. Людзі казалі, што не дадуць Лукашэнку ўцягнуць Беларусь у ваенную канфрантацыю з Еўропай. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой гаворыцца, што ўвядзенне расійскіх ракет будзе адназначна разглядацца беларусамі як акупацыя.

Пасля заканчэння мітынгу міліцыя затрымала восем сябroў Маладога фронту. Іх завезлі ў Савецкі аддзел міліцыі, дзе на ўсіх склалі пратаколы, у якіх абвінавацілі ў выкарыстанні незарэгістраванай сімволікі — беларускага нацыянальнага сцяга. Пратрымаўшы некалькі гадзін, чатырох непаўналетніх і адну дзяўчыну адпусцілі дахаты, узяўшы з апошняй распіску, што назаўтра яна з'явіцца ў суд. Трое хлопцаў правялі ноч за кратамі. 29 сакавіка Ю. Ліскоўскую, Я. Афнагеля, У. Антонава і А. Сівалоба аштрафавалі, кожнага на пяць мільёнаў рублёў. **(зк)**

## Гумовы бот стаў апошнім аргументам

29 сакавіка суддзя Кастрычніцкага раённага суда Віцебска Абашаў быў вымушаны вызваліць палітычнага вязня Уладзіміра Плешчанку, які больш за паўгода прасядзеў за кратамі.

Спадара Плешчанку абвінавачвалі ў знішчэнні помніка Сувораву. Намеснік начальніка Кастрычніцкага аддзела міліцыі Віцебска падпалкоўнік Заблоцкі так хацеў засадзіць нязломнага апазіцыянера (з часу прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі затрымліваўся ён міліцыяй і прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці больш ста разоў) у турму, што нават не парупіўся добра сфальсіфікаваць следства. Адным з галоўных аргументаў абвінавачвання быў адбітак следу гумовага бота, які быў зняты каля разбуранага помніка. Следства даказвала, што гэта след ад бота Уладзіміра Плешчанкі. У падсуднага нават канфіскавалі яго гумовыя боты ў якасці рэчавага доказу.

Але калі ў зале суда адвакат Уладзімір Шайкевіч прыклаў гіпсавы адбітак следу, што знялі ля помніка, да бота спадара Плешчанкі высветлілася — яны адрозніваюцца на 4,5 сантыметра.

Суддзі не заставалася нічога іншага, як вызваліць Уладзіміра Плешчанку з-пад варты, а крымінальную справу накіраваць на дадаследаванне. **(зк)**

# Іграй, іграй сонейка

Яшчэ нядаўна, правёўшы Масленіцу, загаўляліся ў перадвелікапосную надзелю яйкам, рыхтаваліся духова і ўчынкамі да аднаго з большых свят — Уваскрэсення Гасподняга. Нават заядлыя курцы кідалі курыць, спыняліся п'янствы, гульні, спевы. І вось веснавое свята. Даўно-даўно, у дахрысціянскі перыяд, а нават і ў яго пачатках, было гэта свята ў гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу „вялікіх дзён" палявых работ. Толькі пазней да яго прымеркавалі галоўнае хрысціянскае свята — Уваскрэсенне. Дапасавалі, а не ліквідавалі, як часта бывала ў каталіцкім веравызнанні.

Дзень даўжэе. Штораз больш цеплыні дорыць сонца, апранаючы зямлю ў колеры, раніцу вітае хор птушак. А і бусел на страсе заносіцца клёкатам. Кажуць, што ён ужо на Благавешчанне зносіць першае яйка. Таму і пякуць на гэтае свята ўфармаваную з цеста буславую лапу, а бабулі яшчэ і сёння тлумачаць унукам, што бусел прыносіць дзяцей.

Паводле народнага павер'я на Вялікдзень, як і на Купалле, „іграе" або купаецца сонца. Калі яно толькі адпіхнулася ад гарызонту і паявілася па-над хатамі, сем'ямі выходзілі на панадворак ды ўзіраліся як ад яго расплываліся хвалямі каляровыя кругі вясёлкі. Гавораць, што сонца іграе толькі тры разы ў год: на Яна, Благавешчанне і Вялікдзень. Калі неба не скрывалі хмары і сонца вандравала па яго празрыстай прасторы — прарочыла гэта багаты ўраджай і шчаслівыя вяселлі.

Вялікдзень быў адным з самых радасных свят у жыцці земляроба. Адзначалі яго вельмі ўрачыста, гатавалі багата страў, але асноўным і абавязковым было яйка, якога ад перадпоснага загаўлення аж па Вялікдзень нельга было есці. Ім і распачыналіся святы. Разгаўляліся. Яйка з'яўляецца таямніцай жыцця, якое ад яго пачынаецца. Падкрэсліваючы значэнне, размалёўвалі ды распісвалі іх рознымі колерамі і ўзорамі.

Сам Вялікдзень быў па сутнасці ў цэнтры велікодных абрадаў. Пачыналіся яны Вербніцай і канчаліся Праваднай нядзеляй. Асноўным штосьці захавалася з дахрысціянскіх часоў да сёння — гэта культ памерлых і памінальныя па іх бяседы. След такой традыцыі, хаця хрысціянізаванай, выразна відаць у г.зв. „тайнай", „страснай" ці „апошняй" вячэры, што адбывалася ў перадвелікодны чацвер. Ну, і ва ўсіх велікодных застольных бяседах ды праваднай.

Народ з кожным большым святам спалучаў нейкія таемныя знакі, захады, варожбы, якія прадказвалі будучыню, або пры адпаведным захаванні маглі спрыяльна пакіраваць яго жыццём, усцерагчы ад злога ды забяспечыць ураджаем. Гэта селяніну было найважнейшае. Ну і здароўе. Асабліва ў каталікаў захоўваўся звычай свячэння агню ў Вялікую суботу. Гэта мела свой працяг у Велікодную нядзелю. Даўней гаспадыня распальваючы ў гэты дзень агонь абавязкова падпальвала вялікасуботнюю галавешку і толькі ад яе распальвала дровы ці трэскі. Вялікасуботні агонь — гэта нічога іншага як толькі астаўшаеся з даўнейшых памінальных агеньчыкаў па продках.

Істотнае значэнне мела вада, як другі сімвал — моцы і чысціні, не толькі знешняй, але і ўнутранай. Была яна несумненна істотным элементам у жыцці чалавека. Хаця б рытуальнае купанне на Купалу ці ў іншых выпадках. Хрысціянства толькі падкрэсліла яго моц фактам асвячэння. Верылі, што хворы на высыпку, балячкі ці іншыя скурныя хваробы павінен выкупацца ў рэчцы ці сажалцы падчас велікоднай ютрані, калі звоняць царкоўныя званы. Назаўсёды вылечыцца ён тады з гэтай хваробы. Адносілася гэта і да хатняй жывёлы, пра якую селянін дбаў не менш, чым пра сябе. У гэты дзень палівалі вадой кароў ды коней, каб тыя добра гадаваліся ды плодзіліся. Сёння тая ж вада, узмоцненая свячэннем, спаўняе тую ж ролю. Так, як у Вялікі чацвер абыходзіў гаспадар сваю сядзібу з агнём, так на Вялікдзень свяціў вадою сям'ю, хату, гаспадарскія будынкі і жывёлу, каб і яна адчула велікоднае благаславенства. Велікоднае свячэнне ахоўвала людзей і жывёлу ад хвароб, а будынкі ад грому і пажару.

Так, як і з першым днём Каляд, так і з Велікоднай нядзеляй звязаны былі павер'і ды звычаі адносна ўраджаю. Верылі, што таму, хто першы вернецца дамоў з усяночнай, абродзіць гарох і першым закончыць ён жніво. Таму вярталіся подбегам, а нават даходзіла да свайго роду ціхіх спаборніцтваў. Верылі і ў тое, што ў першы дзень Вялікадня гаспадары не павінны класціся спаць таму, што гаспадыні вылежа лён, а гаспадару пшаніца. Не ішлі ў гэты дзень на выбіткі, каб летам не збіваць пальцаў на нагах, не наведвалі знаёмых, не рэзалі нажом хлеб ці пірог, каб не балелі жывот і зубы. Стараліся не піць вады, каб летам піць не хацелася. Стараліся, каб у гэты дзень першым убачыць мужчыну, тады цэлы год будуць здаровымі. Жанчына прарочыла хваробу і непаспяхоўсць. Адвараваліся.

Пачынаўся чарговы перыяд каляндарнай абраднасці. Чакала поле, якому і будзе падпарадкаванае, аж да восені, усё жыццё і дзейнасць чалавека.

**Міхаль ПАШКОЎСКІ**

# Мяняецца Велікодная традыцыя

**Калісь пад Вялікдзень, расказваюць старажылы, сяляне рыхтавалі больш харчоў чым цяпер. А ў Вялікую суботу ўсе чакалі свячэння пасхі. Быў гэта амаль святочны дзень і ніхто не выконваў цяжкай работы. Зараз людзі менш увагі адводзяць свячонай ежы і ўсю традыцыю зводзяць да сімвалічных памераў.**




*„Спецыяльныя" пісанкі Міхала Мінцэвіча.*

— Пасля вайны ў Міклашах пасху свяцілі ў клуні, каб усе людзі змясціліся, — успамінае **Марыя РЫБАЧУК**, 72-гадовая пенсіянерка. — Пасля свяцілі ў трох дамах. Людзі харчы для асвячэння прыносілі ў начоўках, верцехах, місках. Бацюшку прывозілі фурманкай, а пасля адвозілі ў Вульку. У гэты дзень бацюшку за паслугу не плацілі, толькі на другі дзень папячыцель абыходзіў усю вёску і ў кожнай хаце давалі яму па дзве пары яек.

Свяціць цяпер нясуць малую колькасць ежы. У кошычак кладуць сваёй выпечкі мазурак, пасху (дражджавы пірог, які гаспадыні яшчэ пякуць самі), кавалачак каўбасы, соль і яйкі. Асвячэнне ежы цяпер адбываецца ў двух месцах — на пачатку вёскі, пры крыжах і пасярэдзіне, каля нашага дома. На панадворак выносіцца тады стол накрыты абрусам і лавачку накрытую чыстым палавіком. Бацюшка прыязджае на сваёй машыне, а людзі за паслугу плацяць грашыма. У мінулым годзе давалі па 3 злотых.

Яйка — сімвал уваскрэсення — асацыюецца мне з вялікай радасцю, з урачыстым велікодным настроем. Пасля вяртання з усяночнай у арлянскім храме і кароткага адпачынку ўся сям'я сядала да ўрачыстага снедання. Было ў нас шасцёра дзяцей. Пасярэдзіне стала, на белай талерцы яснелі асвячоныя велікодныя яйкі. Бацька старанна кроіў іх на часткі, каб кожнаму быў кавалак свячонага. Потым гаварыў: „Хрыстос уваскрос", а мы адказвалі: „Сапраўды ўваскрос". І тады віншавалі мы адзін аднаго, жадалі дачакаць наступнага Вялікадня. Затым усе спажывалі свой кавалак свячонага яйка — гэта называлася разгавеннем.

На другі дзень Вялікадня маці рыхтавала валачобнае — падарунак з яек і ласункаў для дзяцей. Хроснікі і хросніцы атрымоўвалі па чатыры яйкі, а дзеці сваякоў — па два. Абдараваныя дзеці выбягалі на вуліцу і пачыналася „выбіванне яек" — спаборніцтва на наймацнейшае яйка. Адно дзіця трымала крашанку, а другое ўдарала ў яе сваім каляровым яйкам. Той, у каго пашкодзілася яйка, аддаваў яго саперніку. Бывала, што нядобрасумленныя хітруны карысталіся падробкай — драўляным яйкам. Саўдзельнікі спаборніцтваў жартавалі, смяяліся. Той, у каго было наймацнейшае яйка, станавіўся героем дня, а выйгрыш папаўняў харчовыя запасы на доўгі святочны перыяд. У галодныя часы майго дзяцінства і юнацтва была гэта важная справа.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Няма праблемы — ёсць праблема?

[**1** ☞ *працяг*]

стай мове. І няма ніякіх перашкод, каб у місцовай школе адбываліся ўрокі беларускай мовы. Хай толькі дырэктар мне знойдзе настаўніка і ахвотных вывучаць гэты прадмет. А пра двухмоўныя надпісы, легалізацыю беларускай мовы лепш не спрачацца, бо занадта пахне гэта палітыкай. І таму lepiej jest jak jest, — кажа Станіслаў Федаровіч.

— Я за законам, — кажа бурмістр Бельска-Падляшскага **Андрэй Сцепанюк.**

Ён не бачыць таксама нічога сенсацыйнага ў двухмоўнай шыльдзе на магістраце свайго горада.

— Баюся толькі рэакцыі самой меншасці, — кажа Андрэй Сцепанюк.

— Гісторыя паказвае, што ўвядзенне двухмоўя не будзе простай справай, — кажа **Яўген Вапа**, старшыня Беларускага саюза ў РП. — Чытачам „Нівы" хачу напомніць, што першая спроба ўстанаўлення польска-беларускага ўказальніка была ў маёй роднай вёсцы Доўгі Брод на Дубіччыне. Памятаю супрацьдзеянні тадышніх улад і міліцыі, якая запалохала ўсю вёску і гэта пайшло на Беласточчыну. Чарговая спроба гэта прапанова Яраслава Яновіча вяртання гістарычных назваў мясцовасцям. Для мяне вялікай прыемнасцю было б дачакаца той хвіліны, калі на Беласточчыне стануць двухмоўныя ўказальнікі. Не думаю, што выклікалі б яны абурэнне. Зараз на вуліцах Беластока сустракаем рускамоўныя шыльды як „Мебель" ці „Колготки" і яны нікога не абураюць.

Яўген Вапа выказваецца за ўвядзенне беларускай мовы ў адміністрацыю.

— Такім чынам узрос бы прэстыж мовы, яе ранг і значэнне.

Майго субяседніка здзіўляе насцярожанасць да закона вялікай часткі актыўных беларусаў.

— Санкцыянаванне мовы нацыянальнай меншасці, — кажа Я. Вапа, — гэта адзін з прынцыпаў, які ведае цывілізаваная Еўропа.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Двухмоўная Беласточчына?

У Югаславіі албанская меншасць запатрабавала адлучыць правінцыю Косава ад гэтай краіны. Сербы адрэагавалі тэрорам. У Польшчы парламент абмяркоўваў праект закона, падрыхтаванага польскімі пасламі, які мае акрэсліць юрыдычны статус нацыянальных меншасцей. Самі нацмены, якія складаюць толькі адзін працэнт грамадства краіны, не ставяць амаль ніякіх палітычных патрабаванняў. Сеймавая Камісія па справах нацыянальных і этнічных меншасцей рыхтавала гэты праект хутчэй на патрэбы знешняй палітыкі чым унутранай. У Еўропе, куды ўвесь час ідзе Польшча, юрыдычныя гарантыі правоў для меншасцей не з'яўляюцца нечым асаблівым, а хутчэй нормай.

Новы закон прадугледжвае, між іншым, двухмоўныя ўказальнікі з назвамі мясцовасцей, у якіх у пераважнай колькасці пражываюць нацыянальныя меншасці. 22 сакавіка беластоцкая штодзёнка „Кур'ер поранны" змясціла на першай старонцы камп'ютэрную версію табліцы з назвай горада Беластока на дзвюх мовах — польскай і беларускай. На другі дзень газета змясціла выказванні чытачоў, жыхароў Беласточчыны, якія пазванілі ў рэдакцыю. „Jestem strasznie zbulwersowany tym pomysłem. Kupiłem „Poranny" i myślałem, że krew mnie zaleje jak zobaczyłem tablicę..." — „W głowie mi się nie mieści, żeby coś takiego zostało wprowadzone. To jakaś paranoja". „Protestuję jako Polak". „Robienie z Białostocczyzny jakiejś części Białorusi jest stanowczo za daleko idącym posunięciem". „Komu to potrzebne? Przecież Białorusini mieszkający na Białostocczyźnie znają język polski". „Mniejszość narodowa może swojego języka używać we własnym gronie". „Co na to NATO? Jest to dla Polaków obraźliwe". „Przecież Białorusini mieszkający w Polsce znają język polski, to o co chodzi? A jeżeli im się nie podoba, to niech wyjeżdżają do Białorusi". „Jeżeli ktoś tęskni do języka białoruskiego, to niech wyjedzie na Białoruś". „Skoro miałyby być nazwy dwujęzyczne, to lepiej po angielsku".

Рэакцыі звычайных грамадзян Беласточчыны на праект закона паказваюць, што яго ажыццяўленне ў будучыні можа быць справай вельмі складанай. Нават калі б „Закон аб меншасцях" быў прыняты Сеймам, малапраўдападобнае, што пры такім стаўленні польскай большасці нехта ім пакарыстаецца. **(ям)**

# Сакавіцкія святкаванні



*Арганізатары святкавання са сваім апекуном Яўгенам Янчуком.*

Угодкі абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1918 годзе адзначаліся ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы раніцай 25 сакавіка г.г.

На сустрэчу падрыхтаваную Клубам польска-беларускіх спраў „Граблі" сабраліся ў спартыўнай зале вучні і настаўнікі.

— Незалежнасць будзе тады, калі пойдзеш у школу і будуць вучыць цябе там на роднай мове, — са слоў Уладзіміра Арлова пачаўся гістарычна-літаратурны мантаж.

Вучні дэкламавалі патрыятычныя вершы, а спевакі з Клуба польска-беларускіх спраў і калектыў „Знічка" праспявалі „Магутны Божа", „О Божа Усеўладны" і „Малітву". Яшчэ некальні разоў вучні цытавалі Уладзіміра Арлова, які пісаў, што аб незалежнасці можна гаварыць толькі тады, калі чалавек ад нараджэння ажно да смерці адчувае сябе сваім чалавекам на сваёй зямлі.

— Хацелі мы падтрымаць школьную традыцыю і ўжо раней думалі аб святкаванні 25 Сакавіка, аднак, мабілізаваў нас да працы і многа дапамог апякун нашага Клуба настаўнік Яўген Янчук. Дапамагла таксама і настаўніца беларускай мовы Вольга Сянкевіч, — кажа Ігар Іванюк, адзін з арганізатараў святочнага спаткання. — Падрыхтоўка да гістарычнага мантажу зацікавіла мяне і падштурхнула да больш глыбокага вывучэння падзей 1918 года.

**Аляксей МАРОЗ**

# Меншасці ў сябе

16 сакавіка г.г. у будынку Ваяводскай управы ў Ольштыне адбылося першае пасяджэнне Камісіі па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Сейміка Вармінска-Мазурскага ваяводства. Гэта адзіная ў дзяржаве такая камісія. Пры маршалку гэтага ж ваяводства працуе адзіны ў дзяржаве ўпаўнаважаны па справах нацыянальных меншасцей, якім стаў Віктар Марэк Лейк. На пасяджэнне Камісіі, якое мела інфармацыйны характар, былі запрошаны прадстаўнікі беларусаў, украінцаў, немцаў і ромаў. На сустрэчу прыехаў з Варшавы старшыня Галоўнай управы Саюза ўкраінцаў у Польшчы Мірон Кертычак. Украінцы заявілі, што ў Вармінска-Мазурскім ваяводстве пражывае іх каля 80 тысяч, немцы — 20 тысяч, ромы — 1,5 тысячы, а я, як старшыня Тэрытарыяльнай рады БДА ў Ольштыне, далічыўся 2-3 тысяч беларусаў.

Украінцы ўжо шмат гадоў дамагаюцца стварэння ў сталіцы Варміі і Мазураў рэгіянальнага асяродка ўкраінскай культуры, які б дапамагаў падтрымліваць іх культуру.

— Калі мы маем быць суб'ектамі грамадзянскага жыцця, тады ў бюджэце ваяводства павінны знайсціся невялікія грошы на дзейнасць нацыянальных меншасцей, — сказаў Мірон Кертычак. — Ніхто не здзіўляецца, калі з ваяводскага ці павятовага бюджэту адводзяцца грошы на дамы культуры, бібліятэкі ці іншыя культурныя ўстановы, але калі грошай папросяць меншасці, тады чуваць здзіўленне: чаго гэтыя меншасці хочуць?! А мы ж тут жывем на сваёй зямлі, плацім падаткі. Называемся дэмакратычнай дзяржавай, а мерай дэмакратыі ў Еўропе з'яўляюцца менавіта адносіны большасці да меншасцей.

Экгард Вернер, старшыня Саюза згуртаванняў нямецкай меншасці ў Ольштыне, найважнейшай справай лічыць стварэнне нямецкамоўных школ:

— Да канца 80-х гадоў, калі нас быццам тут не было, было знішчана 70-80 працэнтаў нашай культурнай спадчыны, у тым ліку і мова. Калі пасля 1989 года стала магчымым называць сябе немцамі, выявілася, што маладыя амаль не ведаюць нямецкай мовы.

Нямецкія дзеячы перадалі ўладам ваяводства праект развіцця нямецкага школьніцтва, які ў кожным павятовым цэнтры прадугледжвае прынамсі па адной пачатковай школе і гімназіі з навучаннем нямецкай мовы. Прапануецца таксама заснаванне ў Ольштыне агульнаадукацыйнага ліцэя з нямецкай мовай навучання.

Прадстаўнік ромаў гаварыў пра беднасць свайго асяроддзя.

Паводле старшыні Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей Сейміка Вармінска-Мазурскага ваяводства Тамаша Раманчука тамашнія ваяводскія структуры з'яўляюцца фарпостам змены адносін да нацыянальных меншасцей у краіне, якая мяняе іх з аб'екта на суб'ект грамадскага жыцця.

Я яшчэ папрасіў Тамаша Раманчука, каб чытачам „Нівы" сказаў крыху пра сябе. Ён загаварыў да мяне па-беларуску:

— Ведаеш, Андрэй, я нарадзіўся ў Росі Ваўкавыскага павета, вучыўся ў Сельскагаспадарчым цэнтры ў Гродне, а з 1951 года жыву ў Голдапе; цяпер я на пенсіі. Сябрую з Сакратам Яновічам, Яўгенам Чыквіным, прафесарам Аляксандрам Баршчэўскім і Міколам Бушко. А зараз, калі ўжо пазнаёміліся, буду сябраваць і з табою.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# Бельск-Падляшскі ў Інтэрнэце

**На пачатку снежня мінулага года ў Інтэрнэце з'явіўся тэкст з пяці старонак з фотавыявай бельскай ратушы. Аўтарам інфармацыі з'яўляецца С. Нядзвецкі, які апрацаваў яе па матэрыялах Управы горада.**

Увесь тэкст падзелены на часткі, якія ахопліваюць інфармацыю пра гісторыю, помнікі культуры, ахову асяроддзя, прыродныя рэсурсы, насельніцтва ды распалажэнне горада. На першы погляд, можна знайсці тут ўсё, што варта ведаць тым, хто ўсебакова цікавіцца горадам. Ці знойдуць аднак яны там салідную інфармацыю?

Гістарычную частку аўтар пачынае са сцвярджэння: *Historia powstania grodu sięga czasów kształtowania się państwa polskiego*. Нічога больш не трэба ўжо пісаць, найважнейшае сказана — падкрэслены спаконвяковыя сувязі горада з польскай дзяржавай. Хаця, не зусім. Таксама ж салідна прагучыць і такі сказ сказ: *Historia powstania Moskwy sięga początków państwa polskiego*.

Ні словам не заікаецца аўтар пра археалагічныя знаходкі з наваколля Замкавай Гары. У 1997 г. адкрылі тут адзін з найбагацейшых ў гэтым рэгіёне набор керамікі X-XIII ст.ст. яўна ўсходнеславянскага паходжання. Ці ж толькі сярэдневяковыя бельскія ганчары былі рускімі? Не пасавала б аднак гэта да далейшай высновы аўтара, што ў гэты час Бельск *stanowił ważny, północno-wschodni punkt strategiczny państwa polskiego*. Не Нядзвецкага аднак гэта выдумка, а інжынера-архітэктара Тадэуша Мілера, які ў апошняй сваёй кніжачцы залічыў Бельск у лік сталіц польскай дзяржавы.

Маўчаннем абыходзяцца такія важныя падзеі з гісторыі горада як сойм Вялікага княства Літоўскага ў 1564 г., у час якога згарэў бельскі замак, ці пабудова новага старасцінскага замка на Галавеску.

З інфармацыі можна даведацца: чаму па сёння ў Бельску гавораць па-руску? Бо гэта вынік насільнай русіфікацыі *prowadzonej przez zaborcę*. А ў час I сусветнай вайны больш за 50 працэнтаў жыхароў *wywieziono wgłąb Rosji*. Выглядае на тое, што бежанцаў вывозілі прымусова?

Прыгляньмася цяпер помнікам бельскай культуры. Тут несаліднасць аўтара выяўляецца яшчэ больш чым у папярэдніх частцы. Наконт ратушы пішацца, што цяпер тут *oddział Muzeum Regionalnego*. Даўно няма такога музея. Да 1999 г. у Беластоку быў Акруговы музей (цяпер дзяржаўны).

Пакармеліцкі касцёл — паводле аўтара — перайменаваны на царкву ў 1866 г., калі з дазволу прускіх улад ужо ў 1805 г., была тут уніяцкая царква. Зусім заблытана інфармацыя пра фарны касцёл. Варта гэта прывесці: *Najcenniejszym zabytkiem jest kościół parafialny pw. Narodzenia Najświętszej Maryi Panny i cerkiew św. Mikołaja.* Царква і касцёл пад адным дахам... Цікава? А можа аўтару здаецца, што яшчэ існуе манастырская царква св. Мікалая? Ці часоўня св. Мікалая ўжо так каштоўны помнік?

Пра праваслаўныя храмы інфармацыя такая ж. Прачысценская царква (у тэксце Narodzenia Proroczej? Bohorodzicy) чамусьці да палавіны XIX ст. была уніяцкай. Царкву св. Міхала, паводле інфармацыі, збудавалі ў 1879 г., а не ў 1789 г. (пра тое, што некалькі стагоддзяў раней тут існавала царква не згадваецца ні словам). Пры кароткай інфармацыі пра Васкрэсенскую царкву няма ніякай даты, адно напаўлегендарная вестка пра яе перанос з Леўкаў.

З інфармацыі пра прыродныя рэсурсы ў наваколлі Бельска можна меркаваць, што каля самога горада няма нічога цікавага. Каб нешта пабачыць, трэба ехаць у Белавежу, Семяноўку (з вадасховішча, як сцвярджае аўтар, ваду п'е Беласток?!) ці Нарвянскі нацыянальны парк. З тае сапраўднай прыгажосці, што знаходзіцца побач самога горада гаворыцца адно пра неакрэсленыя бліжэй лясы ды адно *wzgórze kemowe* каля Гацькоў. Тым часам каля Гацькоў, Грыневіч і Праневіч такіх пагоркаў шмат.

Наканец прывяду сказ пра насельніцтва горада. Пішацца тут, што *miasto zamieszkują Polacy, Białorusini oraz Ukraińcy, wśród których są wyznawcy religii katolickiej i prawosławnej*. Гэта яшчэ нічога, што рэлігія не адрозніваецца ад веравызнання. З гэтага сказа можна зразумець, што або толькі сярод украінцаў ёсць каталікі і праваслаўныя, або бельскія каталікі з'яўляюцца і палякамі, і беларусамі, і ўкраінцамі.

**Дарафей ФІЁНІК**

*Адрас старонкі: http://www.ids.pl/~zsebiepo/bielsk.htm*

# Пад бел-чырвона-белым

Нядаўна віленскае Выдавецтва Таварыства Беларускай Культуры „Рунь" выдала ўспаміны эміграцыйнага дзеяча Алеся Алехніка*. Сяброў з Вільні, а асабліва рэдактара Алега Мінкіна, трэба павіншаваць з добрай апрацоўкай матэрыялаў і падараваным беларусам кавалкам нацыянальнай гісторыі.

Алесь Алехнік, пішучы гісторыю свайго жыцця, прадставіў лёс свайго пакалення. Асаблівая каштоўнасць ягоных успамінаў заключаецца ў шчырасці выказванняў. Алехнік нічога не скрывае (як некаторыя нашы мемуарысты), не хаваецца за нейкія намёкі, адкрыта піша пра нікчэмнасць і адвагу, пакідае малодшым пакаленням беларусаў вопыт свайго жыцця, паказвае вартасць лаяльнасці, вернасці нацыянальнай ідэі, чагосьці, чаго немагчыма сёння сустрэць у моры халуйства.

Найбольш месца ў кніжцы адведзена эміграцыйнаму перыяду жыцця аўтара ў Аўстраліі, але шмат ягоных рэфлексій датычыць ранейшага перыяду. Польская школа, бальшавіцкае панаванне, нямецкая акупацыя асталіся ў памяці Алеся Алехніка як час ірацыянальных здзекаў чужынцаў над беларускім насельніцтвам. Падчас II сусветнай вайны — піша аўтар — „Беларусь знаходзілася ў вельмі цяжкім становішчы ў так, прынамсі, выглядала, што кожная крымінальная дробязь прыязджала з усяго сьвету, каб гвалціць яе рабаваць ды мардаваць. Мардавала нас маскоўска-камуністычная банда, мардавала гітлераўска-нямецкая, а дапамагала ім гэтак званая польская Армія Краёва, аддзелы якой стаялі на Лідчыне ды Гародзеншчыне... АК чамусьці аніяк не была зацікаўленая ў змаганьні зь немцамі, але была вельмі моцна пастаўлена супраць беларускага нацыянальнага адраджэньня, ды імкнулася замардаваць як мага больш беларускіх настаўнікаў і гэтым самым не дапусьціць да навучаньня ў беларускай мове дзетак-беларусаў на іхняй роднай зямельцы. Здараліся выпадкі, калі й камуністы супрацоўнічалі зь нямецкімі нацыстамі ў справе зьнішчэньня беларусаў..."

Эміграцыйная дзейнасць Алеся Алехніка вялася ім з думкай дачакаць незалежнасці Бацькаўшчыны. На пачатку дзевяностых гадоў яго мары, як і большасці эмігрантаў-беларусаў, пачалі здзяйсняцца, але ў 1994 годзе зноў прыйшло расчараванне. „На заканчэньне — піша Алесь Алехнік, — я хачу выказаць сваё перакананьне, што ніякі вораг ужо ня зможа зноў паняволіць беларускі народ". Магчыма так павінны думаць усе беларусы. З волі народу вырастае яго лёс — пра што зместам цэлай кніжкі пераконвае беларускі дзеяч з Аўстраліі. **(ям)**

*А. Алехнік, *Пад бел-чырвона-белым (Memento patriam)*, Вільня 1999, сс. 224.

# ПЕРШаЦВЕТ

**З маладой паэтэсай, крытыкам, драматургам... рэдактарам Людмілай РУБЛЕЎСКАЙ з Мінска размаўляе Міра Лукша.**

***— „Калі Вы лічыце сябе асобай творчай, калі Вы маеце цікавасць да слова, вобразу і думкі і Вас захапляе літаратура, музыка і жывапіс, то Вы — наш чытач і наш аўтар".***

***Перад намі — „першы выпуск абноўленага „ПЕРШаЦВЕТу", літаратурна-культуралагічнага часопіса маладых літаратараў Беларусі. «ПЕРШ» — Літаратура, Мастацтва, Бацькаўшчына. «ЦВЕТ» — айчыннай і сусветнай літаратуры, культуры, мастацтва, сучаснасць і гісторыя, эксперымент і класіка. «ПЕРШаЦВЕТ» — гэта ТЭКСТ і КАНТЭКСТ. ТЭКСТ — панарама маладой беларускай літаратуры, адлюстраваная ва ўсёй паўнаце — ад творчасці пачаткоўцаў да тых, хто ўжо мае імя ў літаратуры; творы сусветнай літаратуры ў перакладзе маладых. На старонках КАНТЭКСТУ часопіс «ПЕРШаЦВЕТ» стварае асяродак для літаратурнай вучобы — асновы тэорыі літаратуры і літаратурны практыкум, школа філасофіі і культуралогіі, гісторыя класічнага і сучаснага мастацтва, актуальныя літаратуразнаўства і крытыка. «ПЕРШаЦВЕТ» — гэта дыялог з чытачом, ад самага найінтэлектуальнага да неафіта ў культурніцкім свеце, ад прафесійнай кансультацыі да жорсткай дыскусіі. Часопіс «адкрытай архітэктуры», які гатовы да ўвасаблення новых ідэй. «ПЕРШаЦВЕТ» застаецца часопісам, які будзе адкрываць новыя імёны".***

***Гэта чытаем у першым нумары (кастрычнік—лістапад 1998 г.). Пасля закрыцця „Першацвета"...***

— „Першацвет" ніхто не „закрываў". Але пытанне ставілася так: падпіска малая, значыць, фінансаваць няма сэнсу. Апрача таго заснавальнікаў не задавальняў знешні яго, несучасны воблік. Быў гэта традыцыйны альманах, такі самы, як „Полымя" ці „Маладосць", але натуральна, што менш купляўся, паколькі аўтары — пачаткоўцы, то і ўзровень ніжэйшы. Канешне, у абставінах спрыяльных хай бы і такі быў, дзяржава, калі б была багатая, магла б яго і далей фінансаваць. Алесь Герасімавіч Масарэнка яго зрабіў, і далей бы рабіў.

***— Алеся Герасімавіча адправілі ў 60 гадоў на пенсію, як і шмат іншых, творчых і яшчэ поўных сілаў людзей, а газету перадалі ў іншыя рукі.***

— Перадалі ў якасці дадатка да газеты „Пераходны ўзрост", для падлеткаў, сучаснай, на дзвюх мовах (ну, вядома больш на рускай), калярова аформленай. Усё там ёсць — і перапіска, і звесткі — „ад секса па макіяж", і нейкія больш сур'ёзныя спробы. Словам — папулярная газета, якую прыдумала рэдактар Алена Філіпчык і набіла тыраж да 40 тысяч экземпляраў. У нашых умовах такі тыраж — дасягненне. Грошы нам выдзяляюцца асобна, але адна ёсць тэхнічная база. Часопісу выдалі выдатную тэхніку. Была магчымасць нешта рабіць...

***— А рабіць не было каму...***

— Была дзялянка, на якой можна было рабіць нешта. А што магло быць зроблена, было залежнае ад таго, хто возьмецца за гэта. Магло быць гэта выданне такое як „Пераходны ўзрост", магло б быць рускамоўным выданнем, яно хутчэй за ўсё такім было б, бо былі жадаючыя так зрабіць. Ёсць грошы, ёсць камп'ютэры — садзіся, рабі. Пачалі пісьменнікаў перабіраць. Але ні адзін самавіты чалавек не згадзіўся. Ёсць дзялянка, на якой можна рабіць беларускую культуру. Якраз згуртаваліся ў гэты час Міхась Скобла, Пятро Васючэнка і яны падмовілі мяне за гэту справу ўзяцца, пачаць рабіць **наш** часопіс. Была ў мяне спакуса паспрабаваць, ці змагу. З „Першацвета" засталіся чатыры маладыя, крыху разгублены асобы — рэдактар аддзела крытыкі Наталля Кузьміч, Віктар Жыбуль, Мікола Віч і Андрэй Любы. Што рабіць? І я ўехала ў гэтую справу з усім сваім энтузіязмам!

***— Ты прыдумала такі часопіс, як мы прачыталі ў рэдактарскім слове ў першым нумары. Цікавы. Незвычайны, як на вашы ўмовы.***

— Гэта часопіс для маладых. Літаратурна-культуралагічны, тэксты маладых у кантэксце сусветнай культуры. З выхадам на маладзевыя суполкі і паралелі — расказ пра суполкі іншых краін. І мога-многа іншых задум. Каб увесь час штосьці прыдумлялася, дабудоўвалася. Каб гуртавалася вакол яго што сапраўды называецца інтэлектуальная моладзь. І каб быў пастаянны кантакт з чытачом. Школа філасофіі, культуралогіі, мастацтвазнаўства, літаратурная вучоба, конкурсы. „Тэкст" у нас таксама мае дзве ступені — гэта старонкі „тэкста" і „белыя аркушы" — творы пачаткоўцаў — штосьці меншае па аб'ёму, можа не так дасканалае, першыя спробы. Усё гэта друкуецца вельмі прыгожа, сучасны дызайн, афармленне, з фотаздымкамі, з біяграфіямі. У першым нумары Андрэй Федарэнка друкуе ўрывак з недапісанага яшчэ да канца рамана пра літсуполку „Тутэйшыя". Далей Івушка Паніна — „Не мой дзённік", проза. У паэзіі — Алесь Дуброўскі, Аксана Данільчык, Віктар Жыбуль. Даецца вялікі блок перакладу — усё лепшае з літаратуры ў перакладзе маладых. „Паралелі" — Валерка Булгакаў пераклаў тэст пра ўкраінскі літаратурны рух „Бу-Ба-Бу". Пятро Васючэнка вядзе рубрыку „Анатомія шэдэўра", у гэтым нумары — „Ладдзя роспачы" Уладзіміра Караткевіча. Галіна Багданава — школу мастацтвазнаўства, у нумары — старажытнае егіпецкае мастацтва...

***— 96 старонак вялікага фармату. Гэты нумар ты рабіла за тры тыдні.***

— Было б усё, калі б у той час мы не паспелі ўзяцца за часопіс. Не было б яго. Я сядзела і ў выхадныя, і ў святы, і да ночы. Выступіла ў якасці „каталізатара" (*смех*). Тыраж — 2 тысячы. З 70% на спісанне, як было раней, у нас — 30! З нічога! А не было ж рэкламы, мы не паспелі на падпіску, а часопіс раскупіўся.

***— Пакуль нумары робіце яшчэ здвоеныя, далучыліся новыя маладыя людзі, з новымі ідэямі. Новыя рубрыкі — „Траянскі конь" (гасцююць у вас цікавыя суполкі — „Сфера Вулей", пацыфісты, беларускія панкі — заснавальнікі часопіса „Выграбная яма", мінскія сталкеры, „Тэатр пісхічнай неўраважанасьці"...), рубрыка „Семінар" — сустрэчы з вопытнымі пісьменнікамі... „Скрыжаване жанраў"... Перадала цяпер ты часопіс Міколу Вічу і яго сябрам, паколькі мусіла акрэсліцца — робіш толькі „ПЕРШаЦВЕТ", ці застаешся ў „Літаратуры і мастацтве", дзе ў цябе таксама цікавыя праекты — „гасцёўні", „гарбатні", „бліц-крытыкі". Сур'ёзная літаратура.***

— Сабраўся народ нармальны, здольны рабіць. Пакуль я яшчэ пабуду, наша пакаленне — я, Федарэнка, Васючэнка. Паглядзім, каб не знікла ўсё тое. Галоўнае, каб ідэю не спляжыць. Выданне дзяржаўнае. З заснавальнікамі адносіны эквілібрыстычныя. Рознае магло быць. Часопіс ёсць. Вельмі лёгка гаварыць, што гэта не вельмі незалежнае, не дастаткова прэстыжнае — і пакідаць гэтыя пляцоўкі беларускія іншым, хай тыя робяць сваё. За кожную такую пляцоўку трэба біцца. Там дзе можна нешта рабіць для свайго народа — трэба рабіць, што ёсць сіл, а не глядзець — заплацяць — не заплацяць, пахваляць — не пахваляць, цэнзура — не цэнура. Мы па гісторыі сваёй адступаем, адступаем, пакідаем палі за сабою.

***— Узялася ты за справу цяжкую, няўдзячную, за якую табе не плацілі, за такі шалёны труд. Ды пайшлі нейкія ананімкі, што вось сабраліся нацыяналісты і робяць сваю работу.***

— Беларуская культурніцкая грамада — такі разадрай! Я ўпэўнілася, якія мы самаеды па сваёй натуры. Мала што неспрыяльная сітуацыя знешняя, то трэба яшчэ ўнутры грызці адзін аднаго. Як толькі хто вытыркнецца, штосьці пачне рабіць, яму трэба ў лыткі ўчапіцца.

***— Гэта, здаецца, звычайнае ў беларусаў. Асабліва маладым гэта цяжка зразумець. Дзякуем за размову і жадаем мацунку.***

Міхась АНДРАСЮК

# Кароткая гісторыя Партыі кучаравых

**6. Імпартнае віно**

— Віном маркі „Рызлінг" тут частуюць? — спытаўся моцны, басісты голас. Бас прыналежаў лысаму асобеню і бесцырымонна вырваў нас з одуму над таямніцамі палітычный будучыні.

— У святочныя дні. І толькі заслужаных, — адказаў Толік. Ён апошнім часам выконваў функцыю назіральніка незалежнай прэсы і з гэтай крыніцы чэрпаў інфармацыі пра планы, праграмы і актуальныя ходы нашай партыі.

— Прабачце, не паспеў адрэкамендавацца, — лысы працягнуў руку і па чарзе знаёміўся з кожным з нас. — Прозвішча — Чатыры Забойствы. Імя — Сем Згвалтаванняў. У тым ліку — два калектыўныя. Пра дробныя крадзяжы няма хіба патрэбы ўспамінаць. Дык як будзе з гэтым „Рызлінгам"? — і, не чакаючы запрашэння, засеў парожняе месца і ўсміхаючыся, пераканаы ў дастатковасці сваіх заслуг, спаглядаў нам у вочы.

— Сёння будзённы панядзелак і...

— Каму будзённы, а каму і не, — лысун увайшоў Тадзіку ў слова. — Два гадзікі адбубніў у Беластоку, па вуліцы... як яго там.. Каперніка, о. Уяўляеце сабе? Два гады без віна, без жанчыны. А сёння ўжо на свабодзе, першы дзень. За добрыя павадзіны. Трэба ж лепшае свята?

Гаварыў ён зусім лагічна і пераканаўча, як сапраўдны палітык. Я нават падумаў, ці не спатрэбіўся б ён нам, у прапагандзе, такі асобень, ды тая яго прычоска не надта сыходзілася з назвай нашай партыі...

— Можна было б зрабіць маленькае выключэнне. Фінансы на такія нечаканыя выдаткі мы ж прадбачылі, — азвалася Валя. Як генеральная касірша яна найлепей ведала нашы фінансавыя магчымасці.

— Ну, што ж... Хай будзе, — згадзіўся Тадзік. — Каляндар ёсць каляндар. Бываюць дзяржаўныя дні незалежнасці, чаму не быць і асабістаму дню свабоды?

Не чакаючы далейшых разважанняў пра будзённыя і святочныя дні, Валя падарвалася з месца і пабегла ў буфет.

— З імпарту ёсць толькі італьянскі „Чачасан". Можа быць?..

— Ага, — даў згоду чалавек, які на працягу двух апошніх гадоў не сустракаўся ні з віном, ні з жанчынай. — І, калі ласка, сядайце сюды, бліжэй.

Валя прысела і працягнула яму руку:

— А чаму вы так афіцыйна ўсё „вы" і „вы"? Я — проста Валя.

— Чатыры Забойствы Сем Згвалтаванняў, — госць паўторна назваў свае прозвішча і імя.

— Э там, адразу — сем! — не паверыла.

— Клянуся на памяць роднай маткі, якую сам, гэтымі вось рукамі прыкончыў у свавольныя гады маладосці! Не шэсць, не восем, а менавіта — сем. Пакуль што, — падміргнуў, заглядаючы нашаму скарбніку ў вочы.

— Хвалько, — засмяялася, але ў яе вачах зайгралі іскрынкі, якія часам гавораць больш, чым жанчына сама хоча сказаць. — Кажаш, гэтымі рукамі? — узяла інструмент злачынства ў свае далоні і пачала яго ўважліва разглядаць.

Мы тым часам паглыбіліся ў службовыя справы. Выбарчая кампанія ступала вялікімі крокамі, а нашы кандыдаты ўсё яшчэ аставаліся ў цяні так левых, як і правых канкурэнтаў. Хаця прагнозы не былі кепскія, а нават даходзілі да нас зусім аптымістычныя весткі, лепей аднак хукаць на халоднае, чым потым франціць апечанымі пальцамі.

— Ой, я такая радая, — голас касіршы спыніў разважанні над выбарчай стратэгіяй. — Ці вы ведаеце? Ведаеце вы? — ад нечаканасці яна сарвалася на ногі і з гэтай, вертыкальнай пазіцыі, апавясціла нам радасную навіну: — Ён хоча прыступіць да нашай партыі!

Глянуўшы на расчырванелыя шчокі, на агонь, які неўтаймавальным полымем бушаваў у Валіных вачах, можна было адразу дадумацца, што наш госць заваяваў у ёй адданую, верную заступніцу.

— Вы хіба не разумееце... Наша партыя, гэта ж Партыя кучаравых...

— Пра што вы? Пра гэта во? — паказаў лысун на свой паблісківаючы чэрап і выскаліўся бессаромна. — Дзе лысы, а дзе і кучаравы. Статут не ўдакладняе.

— Статут мо і добра ведаеце. Аднак і нам бліжэй пазнаёміцца трэба, праверыць сябе... Палітыка — вялікая справа. Словам — усё ў свой час.

— Дакладна так. Трэба праверць сябе і пазнаёміцца бліжэй, — Валя са здзіўляючай рашучасцю падтрымала прапанову. — Бяру гэты цяжар на сябе. А заўтра будзем працягваць размову.

Прыхапіўшы няпоўную бутэльку італьянскага віна, Валя з лысым кандытатам у Партыю кучаравых паплыла ў цёплы фіялет лета.

Так і стаіць мне ў вачах наша касірша: з лысым франтам пад ручкі, з пляшкай італьянскага віна ў далоні, а ўсё на фоне шаўкавістай летняй ночы...

Усякія пазнейшыя працэдуры, усе публікацыі аб росшуках не далі станоўчага выніку. Нават лепшыя празорцы, да якіх жэстам канчатковай роспачы звярнуліся мы па дапамогу, таксама развялі рукі.

Партыя кучаравых адышла ў гісторыю. Забылі яе сябры і непрыяцелі, і толькі пан Нязгула, які ў падбеластоцкай псіхушцы паспеў перакваліфікавацца з адваката ў польнага гетмана, час ад часу пасылае нам інфармацыю пра дасягненні ў барацьбе з варварскай сербшчынай. З апошняга пісьма ведаем, што стрымлівае якраз вялікія варожыя сілы дзесьці пад Дубінамі. Мячом стрымлівае ды агнём, і дзякуючы ягонай адвазе Гайнаўка спіць спакойна.

*(канец)*



© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

„Зорка” № 15 11.04.1999

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Пасхальная радасць у маёй сям'і

Велікоднае свята заўсёды было чымсьці нештадзённым у маёй сям'і. Папярэджваючы гэтае найпрыгажэйшае свята, Вялікі пост выдаваўся мне вечнасцю — недахоп музыкі, якая з'яўляецца маім захапленнем, дапякаў мне неміласэрна. Аднак заўсёды суцяшала мяне думка пра надыходзячае свята — Пасху.

У маім доме ўсе святы выглядаюць інакш, таму што мой бацька — свяшчэннік.

У Вялікую Суботу (дзень перад Вялікаднем) тата ездзіць па парафіі свяціць Пасху. Памагае яму мая малодшая сястра, якая спявае „Трапар”. На царкоўнаславянскай мове гэта гучыць так:

*Егда снішэл есі к смерті*
*Жывота бессмертный,*
*Тогда ад умертвіл есі*
*Блістаніем божэства.*
*Егда жэ і ўмершыя од прэісподніх*
*Воскресіл есі.*
*Вся сілы небесныя взываху:*
*Жызнодавчэ, Хрысте Божэ наш,*
*Слава Тебе!*

Уначы з суботы на нядзелю ў царкве ўсяночнае чуванне і літургія. У Ласінцы яна пачынаецца даўнім абрадам — інакш як у іншых цэрквах. Ад дзядоў, прадзедаў, з пакалення ў пакаленне, быў пераказваны тут цікавы абрад — навокал Гроба Гасподняга стаяць „вартавыя”. Яны мяняюцца так, быццам стаялі на варце і наступала ж змена. Прыпамінаюць яны, як рымскія стражнікі пільнавалі цела Ісуса пакладзенае ў заваленую валуном, запячатаную пячору. Калі бацюшка (мой тата) падносіць Плашчаніцу — вартавыя падаюць, нібы паражаныя бляскам маланкі. Набажэнства вельмі прыгожае. Словы: „Хрыстос Воскресе” выклікаюць хваляванне, радасць. Гэта так, як быццам мы нанава нарадзіліся, пачалі новы „раздзел” у сваім жыцці.



*Патрыцыя Кос у пастаноўцы „Куль”.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Пасля набажэнства ў царкве дадому мы вяртаемся стомленыя, аднак задаволеныя. Цешымся, што Хрыстос уваскрос. Пачынаецца новае жыццё, новая радасць.

Калі прыходзім у дом — бацька свяціць велікодны стол. Чакаем з нецярплівасцю. Мгмм... яйка! Сёння ўсё смакуе незвычайна. У час святаў з'ядаем аграмадныя колькасці яек, якіх шкарлупінкі пафарбаваныя ў розныя колеры. Найбольш люблю біцца яйкамі з сястрой. Гэта цудоўная гульня. Аднак са спажываннем яек ніколі нельга „перасадзіць”... Пасля багатага снедання ўсе ідзем адпачыць. Доўга гэта не працягваецца. Ужо ад 10-ай гадзіны моладзь, дзеці, а часам і дарослыя прыходзяць на званіцу ля царквы. Гэта цудоўнае пачуццё — узысці туды і біць у званы! Так абвяшчаем пасхальную радасць уваскрэслага Ісуса Хрыста. Гук званоў у той час вельмі вясёлы.

Час Пасхі гэта час абуджэння. Прырода прачынаецца пасля зімы, усё расцвітае. Гэта вельмі прыгожы і вясёлы час. Свет цешыцца разам з намі, што ўваскрос Хрыстос, наш Госпад.

Пасха — найбольшае і найвясялейшае свята ў літургічным годзе. Думаю, што кожны чакае яго з нецярплівасцю. Тады чакайма таго важнага здарэння. З той нагоды хачу з маёй сям'ёй жадаць усім смачнага яйка і вясёлага „Алілуйя”. Няхай Хрыстос уваскрэсне ў Вашых душах. Жадаю самай радасці ў Вашым жыцці.

**Патрыцыя Кос,**
**вучаніца VIII кл.**
**ПШ у Ласінцы**

## Вялікдзень

Над ціхай талаю зямлёю
Навісла ночка той парою.
Было спакойна і лагодна,
Як бы сама прырода тая
Паважнасць свята адчувае,
З людзьмі жыве супольна, згодна.
Маўчаць хваіны, ані зыку,
Не шэпне гэты бор-музыка,
Стаіць маўчком і разважае,
Відаць, Вялікадня чакае.
Звяры Вялікдзень чуюць, птушкі,
І хвоі гэтыя, і елі
Ліхія людзі падабрэлі,
Бо святам божым ўсюды вее;
З нажом разбойнік не пасмее
Залегчы ў лесе срэдзь дарогі,
Бо і заможны і ўбогі
Святы Вялікаднік святкуюць
І радасць у сэрцы сваім чуюць.

*(Урывак з паэмы*
*Якуба Коласа „Новая зямля”)*

## Яйка

Я — яйка.
Байкаватае!
Куляюся
ва ўсе бакі,
стракатае
і паласатае.
Зварылася.
А калі б
не паспяшылася,
пеўнікам зрабілася б.

**Міра Лукша**

## З авечкай у Еўропу

Ці паверыце мне, што ёсць на гэтым цывілізаваным свеце людзі, якім непатрэбнае багацце і дастатак — хапае ім холькі кавалак страхі над галавою? Жыве сабе такі чалавек у нашай вёсцы ў ліхой хатцы, не п'е гарэлкі, не курыць і, здаецца, нічога яму больш не трэба...

Даўней, калі жылі бацькі, гаспадарка добра дзейнічала. Былі нават заможнымі. Калі бацькі паўміралі, гаспадарка заняпала. Малады гаспадар быў лянівы, усё зарасло пустазеллем. Ён не араў, не дагледжаў дабытку. Усё яму пааздыхала. Асталіся толькі авечкі. Авечкі жывуць шчасліва, хаця і добрага даху не маюць. Відаць — загартаваныя. Зімой ходзяць па полі і шукаюць сабе спажыву, бы тая звярына ў лесе. Зжыліся яны з гаспадаром. Не думайце, што я прычапілася да гэтых авечак, але ж гэта неяк цікава. Іншы трымаў бы адну карову, сабаку, курэй, а гэты — авечак. Нікуды гэтых авечак не прадае і не есць. У гэтых авечак „натуральная селекцыя” — адны паміраюць, другія нараджаюцца. Аднойчы давялося нашаму герою жыць у кампаніі з авечкамі ў клуні нейкага гаспадара, пакуль іх там *не пакрылі*.

Мабыць, у Дубіцкай гміне такая мода, бо некаторыя вёскі канчаюцца на „owiec”, напрыклад: Grabowiec, Tofiłowce; магчыма, што можна памяняць назву Існок на *Існовец* (ад авечак селяніна, які ўступае ў Еўрапейскі Саюз).

**Бася Андраюк,**
**VII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных**

## Польска-беларуская крыжаванка № 15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу 3 тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Wspomnienie | Święto | Pałac | | Mąka | Indyk | Miód | | | |
| | | | | | | | Wiara | Delta | |
| Głaz | | | | | | | | Nos | |
| | | | | | | | | | |
| Wielkanoc / Tara | | | | | | Usta | | | |
| | | | | Maca / Piękno | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 11:** Цар, прамова, прынц, прынцып, лаза, рута, нос, кактус, лес, ара. Плот, прас, прыз, рынак, шанц, цырк, пута, тур, каўбаса.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі: **Марта Пацэвіч, Агнешка Сельвясюк, Марк Цэтра, Агнешка Смактуновіч** з Бельска-Падляшскага, **Бажэна Трафімюк** са Старога Беразова, **Марта Карнілюк** са Спічак, **Цаліна Глагоўская** з Гданьска, **Дар'юш Ляўчук** з Чыжык, **Святлана Федарук** з Нарвы. Віншуем!

# Ёсць „Куль”!



*Спектакль „Куль” на XVI Сустрэчах Зоркі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Гэтага яшчэ не было! У Бельску-Падляшскім пачало сваю дзейнасць новае беларускае кабарэ, назва якога гаворыць сама за сябе — „Куль”!

Гэта здарылася якраз дзякуючы XVI Сустрэчам „Зоркі”. Удзельнікі (асабліва Жана), захопленыя сучаснымі, нетыповымі і вельмі цікавымі песнямі, ужо ў час „зялёнай ночы” (калі вялікіх прыгод і эмоцый і так хапала) падумалі аб заснаванні кабарэ. Калі мы вярнуліся дамоў, думка не знікла. Праз тры тыдні сказалі мы: так — будзе „Куль”... і такім чынам усё пачалося. Потым хапіла ўжо некалькіх хвілін, каб даведаўся аб гэтым дырэктар бельскай „тройкі” Васіль Ляшчынскі. Здаецца, што спадабалася яму наша прапанова. Аднёсся да яе з энтузіязмам. Але хто будзе нам дапамагаць у нашай працы? Гэта не выклікала сумненняў. Будзе гэта незвычайны чалавек, які ў значнай ступені прычыніўся да паўстання „цікавых сустрэч”. Вядома, гэта спадар Алег Кабзар. Будзем вельмі цешыцца таксама тады, калі час ад часу дапаможа ў працы кабарэ бесканкурэнтная „думкадаўца” — спадарыня Аліна Ваўранюк.

А цяпер пра саміх акцёраў. Усіх нас 8 асоб (Жанэта, Мажэна, Гражына, Кася, Магда, Міхась, Томэк і Пятрусь). Якія з нас акцёры і спевакі, усе маглі пераканацца, між іншым, на Сустрэчах „Зоркі”. Ведаем мы таксама яшчэ аднаго вельмі добрага акцёра. Гэта наш сябар — Чарэк Хіліманюк. На жаль, ён не захацеў выступаць разам з намі ў першы дзень вясны ў нашай школе. Вядома, не хапіла яму адвагі. Мы ж усе так моцна яго прасілі! Не згадзіўся, шкада...

Кабарэ „Куль” спатыкаецца раз або два разы ў тыдзень. На рэпетыцыі прыходзіць заўсёды спадар Алег Кабзар. Час ад часу дапамагае нам спадарыня Аліна Ваўранюк. Яе ідэя заўсёды з’яўляецца найлепшай.

У першым выступленні (першы дзень вясны) мы праспявалі, між іншым, песні „Стэфка”, „Цімох”, „Чараўніцы”, „Касіў Ясь канюшыну”, „Пазашлюбная”, „Дарма, Ясю, ходзіш”, „Ты казала...”

**Гражына ПАШКОЎСКАЯ**
**і Мажэна ЖМЕНЬКА,**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Велікодныя абрады

**Найбольш радасці было дзеткам**

У апошнюю перадвелікодную нядзелю Вялікага посту, напярэдадні Страснага тыдня хрысціянская царква святкуе вялікае і радаснае свята — Вербніцу. Святкуецца яна пасля „Лазаравай суботы”.

У Евангеліі ад св. Лукі даецца гісторыя, што пасля ўваскрэсення Лазара Ісус Хрыстос, Сын Божы, вырашыў пайсці ў Іерусалім. Спыніўся ён непадалёк Елеонскай гары і папрасіў вучняў, каб прывялі яму маладое асляня, на якім ніхто не сядзеў. Вучні хутка выканалі загад. Хрыстос паклаў рэчы на асляня, сам сеў вярхом і накіраваўся ў горад. Народ горача і радасна прывітаў Яго як прарока, сцелючы яму дарогу пальмамі.

На Вербніцу людзі стараюцца схадзіць у царкву і асвяціць вярбу. Яшчэ дагэтуль вербы прыносяцца ў хату, каб яны распусціліся ў цяпле і вадзе.

У царкве вельмі прыгожа выглядаюць зялёныя вербы, упрыгожаныя стужкамі і штучнымі кветкамі. Асвечаную ў царкве галінку вярбы неслі дадому і злёгку сцёбалі ёй усіх кватарантаў, перш за ўсё дзетак і прыгаварвалі:

— Не я б’ю, не я б’ю...

Найбольш радасці было дзеткам, якія нецярпліва чакалі Свята Уваскрэсення Гасподняга.

Нашы продкі верылі і пераказвалі шмат ахоўна-магічных дзеянняў, верылі, што асвячаная вярба дапамагала засцерагчы жывёлу ад ведзьмаў, ад злога вока суседзяў ці іншых аднавяскоўцаў, спрыяла добрай малочнасці. У сувязі з гэтым гаспадар абыходзіў з галінкамі вярбы ўсе пабудовы, дзе стаяла жывёла і тройчы злёгку сцёбаў кожную жывёліну: карову, каня, вала, казу, сабаку, ката, калоды з пчоламі, у садзе пладаносныя дрэвы, у агародзе і на ніве. Пры канцы абрадавага абыходу, гаспадар кіраваўся на могілкі і тройчым ахвастаннем вітаў магілы сваіх суродзічаў. Гэтыя галінкі, уваткнутыя ў зямлю на месцы праведзенага абраду, пускалі карані і з іх вырастала новае дрэва.

Другія, асвячаныя галінкі вярбы клалі за бажніцу, утыкалі ў сцены, кожная гаспадыня выганяла на Юрыя сваю карову, сцёбаючы яе па баках галінкай. З вярбой земляроб распачынаў узорванне яравога поля, веснавую і асеннюю сяўбу, пасадку і г.д.

Каб не баяцца летняй навальніцы, усе члены сям’і імкнуліся з’есці па адной пупышцы вярбы, а затым легчы на зямлю і перакуліцца. У час моцных грымотаў гаспадыня запальвала грамнічную свечку, а галінкі вярбы клала на падаконнік з таго боку, адкуль насоўваліся дажджавыя хмары.

Цудадзейную сілу вярбы выкарыстоўвалі як лячэбны сродак, каб засцерагчыся ад ліхаманкі, утаймаваць зубны боль.

**Бася АНДРАЮК (VII кл.)**
**і Павел НЕВЯДОМСКІ (V кл.),**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**

# Чыжыкі

Так завуць маю родную вёску. Яна невялікая і вельмі прыгожая. Ёсць тут стары млын і вельмі старая капліца. У гэтай капліцы ікона з 1800 года. Калісь у нас было чатыры млыны. Недалёка вёскі многа падлескаў. Каля вёскі спартыўная пляцоўка. У вёсцы знаходзіцца клуб. Я вельмі люблю маю вёску.

**Дарак ЛЯЎЧУК,**
**ПШ у Новым Корніне**

# Гуляюць у тэатр і пішуць у „Зорку”

У Падставовай школе ў Дубічах-Царкоўных 86 вучняў, сярод якіх 61 вучыцца беларускай мове. Заняткі вядуцца ў двух старых будынках, але будуецца новая школа. Вучні спадзяюцца, што ў наступным годзе будуць вучыцца ў прыгожых вялікіх кабінетах, гуляць з камп’ютэрамі і адпачываць у прыгожай святліцы.

**Гуляюць у тэатр**

Вучні, якія вучацца беларускай мове, прымаюць удзел у працы гуртка жывога слова. Апякуецца ім настаўніца беларускай мовы Галіна Трашчотка. Па суботах і ў час канікул вучні рыхтуюць тэатральныя пастаноўкі, дэкламуюць вершы і спяваюць песні. Са спектаклямі на беларускай мове выступілі яны ў час школьных урачыстасцей, звязаных з Днём настаўніка, Днём мамы, на ёлцы. Нядаўна ездзілі з тэатральным выступленнем на Агляд беларускіх школьных тэатраў у Кляшчэлі. Паказалі там казку „У лясным гушчары”. Занялі II месца, а спектакль вельмі спадабаўся публіцы.

**Пішуць у „Зорку”**

Дубіцкія вучні дасылаюць свае артыкулы ў „Зорку”. Гавораць, што вельмі многа ўражанняў засталося ад апошніх Сустрэч „Зоркі” ў Старыне.

— Зусім іншымі ад школьных урокаў і вельмі цікавымі былі заняткі ў час сустрэч, — кажа васьмікласніца Кася Рыбак.

Настаўніца беларускай мовы Мар’я Казімерук гаворыць, што дзякуючы Сустрэчам вучні VI класа Мажэна Бадавец, Марта Саевіч і Моніка Старасельнік пачалі складаць казкі і вершы.

Мажэна Бадавец выслала ў „Зорку” 2 вершы, казкі і рэпартаж, а Кася Рыбак — водгук на артыкул Крысі Шчэрбы. Настаўнікі беларускай мовы Галіна Бялькевіч, Мар’я Казімерук і Галіна Трашчотка інфармуюць пра выдатнікаў па беларускай мове сярод малодшых. II і III класы — Магда Ауксенціюк, Юліта Кіпрыянюк, Мар’юш Кіпрыянюк і Оля Шыманюк, IV клас — Аня Баравік, Бася Трафімюк і Магда Рыбак, V клас — Аня Скавародка

**Аляксей МАРОЗ**



*Вучні з гуртка жывога слова.* Фота Аляксея МАРОЗА

# Беларуская філалогія ва Універсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне



*Студэнты-беларусісты IV-га курса аддзялення беларускай філалогіі Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай.*

Калі пасля распаду СССР паўсталі незалежныя дзяржавы Украіна і Беларусь, у Польшчы пачалі ствараацца новыя накірункі філалогіі. У 1993 г. рэктар Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай Я. Гонсёр і прарэктар Е. Бартмінскі выступілі з ініцыятывай стварыць ва універсітэце аддзяленне беларускай філалогіі (беларускае аддзяленне на славянскай філалогіі у Люблінскім каталіцкім універсітэце існавала з 1987 г.). У Беларусі ў той час адбываўся працэс нацыянальнага адраджэння, папулярызацыі беларускай мовы і культуры. Кіраўніцтва нашага універсітэта зыходзіла з таго прынцыпу, што мову і культуру суседняй дзяржавы трэба ведаць, і выпускнікі новага аддзялення павінны стаць тымі, хто неўзабаве будзе наладжваць польска-беларускія палітычныя і культурныя сувязі.

На пачатку вясны 1993 года рэктар Я. Гонсёр запрасіў на размову выкладчыка Інстытута славянскай філалогіі доктара М. Саевіча і даручыў яму арганізацыю беларускай філалогіі (годам раней ва універсітэце была адкрыта ўкраінская філалогія). Выраашана было не чакаць, пакуль з'явяцца навуковыя кадры, укамплектуецца бібліятэка, а неадкладна пачынаць працу (беларуская філалогія ў Варшаўскім універсітэце існуе больш сарака гадоў, а працуе там толькі адзін прафесар — А. Баршчэўскі). У Мінск адправілася дэлегацыя ў складзе прафесараў Е. Бартмінскага, Я. Арлоўскага, Я. Левандоўскага і доктара М. Саевіча, каб абмеркаваць пытанні супрацоўніцтва паміж Універсітэтам імя М. Кюры-Складоўскай і Беларускім дзяржаўным універсітэтам. Была падпісана дамова аб навуковым і педагагічным супрацоўніцтве, аб абмене выкладчыкамі і студэнтамі (якраз у гэты час у Мінску арганізоўвалася аддзяленне польскай філалогіі).

1 кастрычніка 1993 г. пачаліся заняткі на першым курсе беларускай філалогіі Універсітэта імя М. Кюры-Складоўскай. Заняткі праводзілі выкладчыкі Інстытута славянскай філалогіі М. Кордас, М. Саевіч, Н. Саевіч, Я. Сянкевіч, прафесар Т. Рот-Жаброўскі. З Мінска былі запрошаны дацэнт С. Кавалёў, а з Варшавы — прафесар А. Баршчэўскі. Пазней да калектыву выкладчыкаў далучыліся выпускнікі беларускай філалогіі Люблінскага каталіцкага універсітэта Б. Гура і М. Вяжхоўская. З 1998 г. як самастойная адзінка існуе кафедра беларускай мовы і літаратуры, якой кіруе доктар М. Саевіч.

Найбольш праблем было з камплектаваннем бібліятэкі. На жаль, ні Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве, ні Фонд беларускай культуры, ні іншыя беларускія ўстановы і арганізацыі не аказалі ніякай дапамогі. Патрэбныя для вучобы падручнікі і слоўнікі выкладчыкі і студэнты вымушаны былі шукаць у букіністычных кнігарнях альбо прывозіць з Мінска (у сувязі з гэтым звяртаемся з просьбай да ўсіх, хто можа нам дапамагчы кнігамі ды часопісамі).

Штогод у верасні група люблінскіх студэнтаў-беларусістаў выязджае на практыку ў Мінск, а мінскія студэнты-паланісты наведваюць у гэты час Люблін. Да таго ж адна асоба з польскага боку праходзіць гадавы курс навучання ў Беларусі, і, адпаведна, адна асоба з беларускага боку — у Польшчы. Люблінскія студэнты былі таксама слухачамі Летняй школы беларусістыкі ў Гродне, бралі ўдзел у дыялекталагічнай экспедыцыі на Брэстчыне, IV і V курсы праходзяць педагагічную практыку у беларускіх ліцэях (Гайнаўка, Бельск).

Хаця гісторыя беларусістыкі ва Універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай налічвае ўсяго шэсць гадоў, за гэты час адбылося ўжо шмат навуковых і культурных мерапрыемстваў, арганізаваных выкладчыкамі і студэнтамі. Перад навучэнцамі выступалі госці з Беларусі: прафесары А. Грыцкевіч і І. Шаблоўская, дактары П. Міхайлаў, М. Чарняўскі, М. Хаўстовіч, пісьменнікі Л. Драньзько-Майсюк, Ю. Залоска, тэатральны крытык Ж. Лашкевіч. Адбылася вечарына, прысвечаная жыццю і творчасці Ларысы Геніюш на падставе кнігі „Споведзь" і шматлікіх вершаў паэткі, інсцэніраваная вечарына ў гонар Івана Луцкевіча з выкарыстаннем успамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай. Асабліва ўдалася цудоўная вечарына, наладжаная беларуска-нямецкім курсам пад загалоўкам „Маленькі прынц сярод нас". Гэта было тэатралізаванае прадстаўленне на трох мовах — польскай, нямецкай і беларускай — паводле матываў вядомай казкі А. дэ Сент-Экзюпеы. Спектакль сабраў вялікую колькасць гледачоў не толькі з беларускага аддзялення. Варта згадаць таксама літаратурную вечарыну з удзелам вядомай паэткі з Бельска Надзеі Артымовіч, і сустрэчу з маладымі паэтамі-бардамі з Мінска — Сяржуком Мінскевічам і Андрэем Хадановічам (апошні з іх акрамя ўласных твораў чытаў пераклады на беларускую мову вершаў Ч. Мілаша і К. І. Галчынскага).

У 1998 г. адбыўся першы выпуск аддзялення беларускай філалогіі ва Універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай. Мы вырашылі сустрэцца з выпускнікамі і даведацца, як успамінаюць яны сваю вучобу ва універсітэце, як ацэньваюць яе. Вось што сказала нам Івона Банасік: „Я з прыемнасцю згадваю пяць гадоў навучання на аддзяленні беларускай філалогіі. Наш курс быў першым, эксперыментальным у гісторыі універсітэта. Бракавала падручнікаў, навуковай і мастацкай літаратуры, але мы скончылі вучобу і сталі магістрамі. Лічу, што мы атрымалі добрыя веды. Падчас практыкі ў Гайнаўскім ліцэі настаўнікі адзначылі высокі ўзровень нашай падрыхтоўкі, а вучні ліцэя нарака- лі на нашу патрабавальнасць. Атрыманыя на аддзяленні беларускай філалогіі веды дапамагаюць мне ў далейшай вучобе і напісанні магістарскай працы па паліталогіі. Цешыць таксама, што беларусістыка існуе далей і на першым курсе вучыцца шмат студэнтаў". Цёпла ўспаміналі гады студэнцтва і іншыя выпускнікі, асабліва практыку ў Мінску, дзе яны мелі магчымасць пазнаёміцца з рознымі цікавымі людзьмі, лепш пазнаць гісторыю і культуру Беларусі.

Паразмаўлялі мы і з першакурснікамі, якія толькі распачалі сваю вучобу на нашым аддзяленні. Іх думка была такая: „Мы ганарымся тым, што ў Польшчы мы будзем аднымі з тых нямногіх, хто добра ведае беларускую мову, літаратуру, культуру. Дзякуючы таму, што мы тут вучымся, мы лепш разумеем і гісторыю нашай уласнай краіны, а таксама гісторыю ўсіх славянскіх народаў".

Як відаць з нашага кароткага агляду гісторыі люблінскай беларусістыкі, а таксама з размоў са студэнтамі, выпускнікамі і выкладчыкамі, варта вывучаць беларускую філалогію ў Люблінскім універсітэце імя М. Кюры-Складоўскай. На жаль, большасць абітурыентаў не ведае пра існаванне нашага накірунку, але мы думаем, што неўзабаве гэтая сітуацыя зменіцца ў лепшы бок і беларуская філалогія стане больш папулярнай не толькі ў Любліне, але і ва ўсёй Польшчы.

**Агата Тубэк і Адам Сівэк,**
**студэнты IV-га курса**

**Марэк Катанскі ў Беластоку**

# Дзеля нашай моладзі

Беласток гэта другі горад, у якім са спектаклем „Быць або браць" выступіць Келецкі тэатр танца. Прэм'ера гэтага балетнага відовішча адбылася 15 лістапада 1998 года на вялікай сцэне Келецкага цэнтра культуры, а падрыхтавана яна была пад духоўным патранатам Марка Катанскага.

Хто такі Марэк Катанскі ў Польшчы (і, аказваецца, не толькі), не трэба гаварыць. Усе ведаюць, колькі ён зрабіў для барацьбы з наркаманіяй. Толькі ў Польшчы пад яго ведамствам знаходзіцца 95 дамоў „Манара" і „Маркота" (у тым ліку і пабудаваныя яго пацыентамі), у якіх не толькі лечаць наркаманаў. У іх прабывае сёння 10 тысяч чалавек, якія патрабуюць дапамогі другога чалавека. Ёсць сярод іх начлежныя дамы для адзінокіх маці з дзецьмі, дамы для маладых злачынцаў, універсітэты жыцця, дамы для недаразвітых дзяцей, для хворых СНІДам, асобныя пасёлкі для людзей, не ўмеючых прыстасавацца да жыцця, ёсць таксама бясплатныя сталоўкі для бедных пенсіянераў, „хуткая дапамога" для людзей, якім за семдзесят (толькі ў самой Варшаве ездзяць ужо тры „хуткія дапамогі" да старых людзей).

Адным словам, Марэк Катанскі гэта сёння ўжо цэлая ўстанова. І ўсе карыстаюцца яе паслугамі бясплатна. Марэк Катанскі лічыць, што кожнаму патрабуючаму такая дапамога тут павінна быць дадзена, а дэфініцыі „злачынная моладзь" ён не прызнае. Ёсць толькі моладзь, якую не зразумелі настаўнікі, выхаваўцы, бацькі, сцвярджае ён.

У асяродках „Манара" і „Маркота" ўся дзейнасць адбываецца пры дапамозе людзей добрай волі. Нейкая бензастанцыя дае дармовы бензін, пякарня — хлеб, „Дэлікатэсы" — шынку для хворых дзяцей. Тут пазванілі, што ёсць 20 тысяч падмоклых пустакоў: хочаце? Вядома, хочаць, адказвае Марэк Катанскі, і ўжо паўстае новы дом. Самі пацыенты будуюць, тынкуюць, малююць. Пацыенты таксама працуюць на зямлі. Мне трэба, дадае Марэк Катанскі, каб людзі рабілі дарма. Гэта перш за ўсё праца з моладдзю.

У Альштынскім ваяводстве нехта перадаў ім 30 гектараў зямлі. Адразу пачалі там будоўлю. Але вось у Лютутове нехта запісаў ім „заезд" вартасці 30 старых мільярдаў, дык войт, наракае Марэк Катанскі, нават і пяць мінут не чакаў: вон адсюль, сказаў адразу. Такія будні змагароў з наркаманіяй.

Спектакль Келецкага тэатра танца „Быць або браць" — прафілактычны, а не, давядзі Бог, „інструктажовы", як сумняваўся адзін настаўнік. Яго мэта — дапамагчы моладзі выйсці з эвентуальнай наркаманіі, а перш за ўсё папярэдзіць яе, якія могуць быць ніякі неразважных спроб карыстання наркотыкамі. Праследаванне дылераў, барацьба з імі гэта заданне паліцыі, сказаў Марэк Катанскі. Наша справа — дапамагчы моладзі. Ідзе лета, канікулы, будуць розныя лагеры — і чарговыя дзесяткі, а нават сотні маладых людзей увойдуць у гэта гаўно (ён так і сказаў: „у гаўно") дзеля цікаўнасці, ахвоты перажыць нешта новае, заімпанаваць сябрам і сяброўкам. Хто, як хто, але Марэк Катанскі наркаманаў спазнаў.

Пасля келецкага спектакля былі разасланы прапановы ў розныя тэатры. Першы адгукнуўся Анджэй Кароляк, дырэктар тэатра імя А. Вянгеркі ў Беластоку. І тут адбудзецца другі спектакль Келецкага тэатра танца. Запланаваны ён на 11 мая. А гадзіне 9-ай і 11-ай у тэатры выступіць тэатр танца, а пасля перад будынкам тэатра адбудзецца мітынг для моладзі.

Марэк Катанскі прапануе ў кожнай школе стварыць прафілактычны пункт для наркаманаў. Заданнем маладых людзей, якія атрымаюць сертыфікаты, будзе знайсці дарогу да сэрцаў сваіх равеснікаў, якія ўжываюць наркотыкі, і намовіць іх на лячэнне. Дачка не раз прыводзіла да Марка Катанскага наркаманаў, якія ў жыцці не пайшлі б у ніякі кансультацыйны пункт. Ніхто так, як равеснікі, сцвердзіў ён, не зможа дапамагчы маладым наркаманам.

Прысутная на прэс-канферэнцыі, якая праходзіла ў тэатры А. Вянгеркі 23 сакавіка, моладзь з тэхнікумаў была „за".

Цікавінка: перад *happeningiem* у Беластоку „незалежны чалавек" Марэк Катанскі наладжвае „ланцуг чыстых сэрцаў" на Краснай Плошчы ў Маскве (дзе заснаваў ужо два асяродкі „Манара"). Нават усё ўжо дагаворана з мэрам Масквы Юрыем Лужковым. Мерапрыемства адбудзецца 7 мая 1999 года, якраз на святога Юрыя.

**Ада Чачуга**

# Ікона св. Дзімітрыя ў Саках


*Царква ў Саках.*

Месцазнаходжанне царквы на парослым сасняком узгорку нагадвае Святую Гару Грабарку. У яе падножжа знаходзіцца крыніца-калодзеж, а каля 100 метраў з правага боку выцякае струмень з пароcлымі алешнікам берагамі. Непадалёк — вёска Сакі, жыхары якой з пакалення ў пакаленне перадаюць легенду аб ікone св. Дзімітрыя Салунскага.

Паводле легенды, некалькі стагоддзяў таму адзін з жыхароў Сакоў трапіў у турэцкую няволю і працаваў там у пякарні. Хлебная печ у ёй закрывалася драўлянай дошкай, якая ў сапраўднасці была іконай св. Дзімітрыя (вернікі ісламa былі лютымі ворагамі ікон). Аднойчы нявольніку ў сне з'явіўся юнак, які прасіў узяць ікону з сабою. Калі сон паўтарыўся яшчэ раз, нявольнік схаваў ікону пад падушку і заснуў, думаючы пра родную старонку. Якое ж было яго здзіўленне, калі прачнуўся на гары побач родных Сакоў. Аб гэтым здарэнні расказаў ён уладальніку маёнтка, які на гэтым месцы паставіў драўляную царкоўку. Ікона св. Дзімітрыя аказалася цудадзейнай, а многія людзі атрымалі ад яе аздараўленне. Царкоўка згарэла ў пажары, але ікона выратавалася. На пажарышчы была ўзведзена новая царква.

Св. Дзімітрый жыў на пераломе III і IV стагоддзяў у Грэцыі і быў начальнікам горада Салуні. Прапаведаваў хрысціянства і за гэта з рук паганцаў атрымаў пакутніцкую смерць у 306 г. Ягоная памяць асабліва шануецца ўсходняй Царквою, дзе святы лічыцца заступнікам ваяроў і салдат. Пасвячаліся яму храмы ў Вялікім княстве Літоўскім, пазней на Падкарпацці, Пярэмышльскай зямлі, Холмшчыне і Падляшшы. На Беласточчыне Свята-Дзімітрыеўскімі найменаваны цэрквы ў Жэрчычах, Парцаве і будаваная ў Гайнаўцы.

Першая пісьмовая згадка пра царкву ў Саках паходзіць з 1727 г. *Wizyta generalna cerkwi dubickiej* піша наступнае: *Kaplica w Sakach fundacyi PP Sakowskich, w ktorey zaś w Rok odprawuie się Nabożeństwo na Święty Demetryusz za Indulam... Metropolitani. W ney apparencya ołtarz ieden z obrazem w Dachu w podłogach oknach y Drzwiach dobrze opatrzona. Wypadł na nią Interdykt aby w ney Nieodprawowano w zas ociec Dubicki fortur ze ultro do niey udaje się z nabożeństwem przypadkowo z własnej woli.* Невядома па якіх прычынах мітрапаліт забараніў служыць набажэнствы у царкве св. Дзімітрыя. Быў гэта перыяд уніі, а ў народзе жылі яшчэ традыцыя праваслаўя і культ св. Дзімітрыя.

У друкаванай крыніцы канца XIX ст. адзначаецца: *Храмовая сея святая икона Дмитрия Мироточивого состоит в особом почитании у окружного населения.* Падчас бежанства ў 1915 г. ікона і жыхары Сакоў апынуліся ў Екацярынаслаўі. Аднак вернікі не здалі ікону ў тамашнюю царкву, бо ведалі, што потым цяжка будзе ім узяць назад сваю святыню. Трымалі яны ікону пры сабе і маліліся перад ёю, просячы заступніцтва ў цяжкой бежанскай долі.

З бежанства жыхары Сакоў вярталіся са сваёй іконай поездам, усе ў адным вагоне. З чыгуначнай катастрофы выратаваўся толькі іхны вагон. *Спасая икону, спаслися мы сами,* — сказала адна з бежанак Кацярына Врублеўская. Усе шчасліва вярнуліся на радзіму.

Аднаўленню культу св. Дзімітрыя пасадзейнічала матушка Марыя Кудраўцава, якая сама атрымала аздараўленне ад цудадзейнай іконы. Калі пагражала ёй аперацыя калена, яна са шчырай малітвай звярнулася да св. Дзімітрыя і адразу адчула палёгку. Потым лекар сцвердзіў, што ў калене няма ўжо вады. Па яе ініцыятыве драўляная царкоўка была разбудавана. З Насценькай з суседніх Сухавольцаў матушка наведвала дамы прыхаджан, просячы ахвяру на рамонт царквы. Падчас вандраванняў матушка спісвала ўсе цудоўныя аздараўленні перад іконай св. Дзімітрыя.

Пасля смерці матушкі яе дачка Людміла напісала аднаму святару: *Много чудес от Димитрия Солунского у мамы списаны в тетрядке... с просьбой напечатать чудеса исцелений от чудотворной иконы, написаны и свидетели, написаны и фамилии и всё подробно...*

А вось некаторыя аздараўленні:

Настаяцель царквы ў Ялаўцы а. Яўгеній Канаховіч у чатырохгадовым узросце атрымаў траўму: конь ударыў у лоб і хлопчык страціў зрок у адным воку. Бацька з сынам падаліся са шчырай малітвай у Сакі. Калі пацалавалі яны ікону, хлопчык выгукнуў: *Тата, я бачу!*

У жыхара суседняга Грабаўца Герасіма Багроўскага захварэў чатырохгадовы сын Мікалай. Калі хлопчык быў у перадсмяротнай агоніі, маці паспешліва падалася да цудадзейнай іконы, напомніўшы мужу, каб, калі б дзіця памерла, не забыў падвязаць ніжнюю сківіцу. Калі маці пасля шчырай малітвы за аздараўленне сынка з трывогай вярнулася дадому, хлопчык сядзеў ужо ў ложачку і прасіў есці.

Сямнаццацігадовая Анна з Грабаўца працавала на чыгунцы. Вяртаючыся з работы ейныя сяброўкі размаўлялі аб набліжаючымся свяце св. Дзімітрыя. Анна сказала: *Якое ж гэта свята.* Калі над'ехаў цягнік, сяброўкі сышлі з пуці, а яна засталася на рэйках: ішла бы загіпнатызаваная, не чуючы ні гулу цягніка, ні крыку сябровак. Апрытомнела, калі перад сабою ўбачыла лакаматыў. Машыніст здолеў затармазіць. Дома Анна з раскаяненм расказала маці пра цуд. Матушка Марыя Кудраўцава ў 1960 г. запісала: *Дала я Анне іконку св. Дзімітрыя, а яна прытуліла яе да грудзей. Цяпер Анна заўсёды наведвае царкву, шчыра моліцца.*

Марыя Кудраўцава царкве ў Саках ахвяравала плашчаніцу, якую яна сама запраектавала і распісала (а выканаў яе Ігар Шклярук). Паміраючы, матушка Марыя прасіла толькі пра малітву падчас багаслужбаў у Саках. Яе апошняй воляй было таксама пакласці ў труну стружкі ад плашчаніцы.

Вернікі ў царкву ў Саках прыносілі ў якасці ахвяраванняў вылітыя з воску вывы галоў, ног, далоней, сэрца. Многа было гэтых фігурак, а кожная з іх абазначала людскія пакуты, а таксама радасць ад аздараўлення перад іконай св. Дзімітрыя.

Можна спадзявацца, што ікона св. Дзімітрыя Салунскага ў далейшым будзе апякункай вернікаў і гэтага месца, выбранага ласкай і заступніцтвам святых Гасподніх.

**(агс)**

# Імёны Хрыста і ягонае маці на іконах

Калісь я і Адам Сталёны-Дабжанскі з ягонымі сябрамі ехалі з Варшавы ў Гарадок, дзе будавалася царква. Ні з таго ні з сяго гэты прафесар Акадэміі выяўленчых мастацтваў у Кракаве сказаў мне: „Вось я табе пакажу, які ўзровень навукі на Падляшшы". Мы пайшлі і выслалі тэлеграму да запатрабавання (poste restante) з лацінскім тэкстам (якіхсь 12 слоў). У Беластоку мы атрымалі яе і знайшлі ў ёй 8 памылак, апісак. Вядома, што перш за ўсё гэтак бывае, калі той, хто прымае тэлеграму не ведае яе мовы. Але ж яна была напісана „польскімі", а не кітайскімі, літарамі!

Так было і з малаграматным урадніком Ваяводскага аддзялення Дзяржаўнай службы помнікаў у Беластоку (глядзі: „Ніва" ад 21.02.1999, 9 стар.), які даў тэкст: „Napisy w alfabecie cerkiewnosłowiańskim w górnych narożach obrazu Mater Then, na wysokości głowy Jezusa: Jezus Chrystus".

Хто ведае грэчаскую культуру, той у міг разбярэцца, у чым тут рэч. Перш за ўсё прыпомнім, што царкоўнаславянскі шрыфт узяўся з грэчаскага ўстаўнога пісьма з дадаткам — дзе трэба — літар з іншых алфавітаў, напрыклад, Ш з яўрэйскага. Адным словам, усе грэчаскія тэксты можна напісаць царкоўнаславянскімі літарамі.

Па-другое, тут не царкоўнаславянскія надпісы а грэчаскія з памылкай, бо трэба было даць THEY а не THEN, бо гэта ад ΘΕΟΣ — Бог а родны склон — ΘΕΟΥ („оу" чытаецца як „у"). Для кароткасці пішуць з левага боку галавы Марыі МР а з правага боку ΘΥ (таксама з цітлай). Надпіс у поўнай форме павінен выглядаць так: МИТИР ΘΕΟΥ. Значыцца, урадНік чуў звон, ды не ведаў дзе ён: даспяваў сабе МАТЭР. Глухі калі не пачуе, тады сабе прыдумае нешта.

Слова „Jezus" — выдуманае дый годзе. Пры галаве Господа бачым літары IC XC (з цітламі), што ў поўным напісанні выглядае Ісусоус Хрістос. Каталікі пазычылі сабе з Візантыі ікону Божае Маці „Nieustającej Pomocy", дзе праваруч бачым анёла з васьміканцовым крыжам. Там напісана менавіта, як вышэйсказана.

Дарэчы, у іканастасе часам бачым у арэоле наўкол галавы Хрыста тры літары: о, о і н, якія вымяўляліся пачаткова як го уон. Го — гэта артыкль (як у нямецкім der, die, das) мужчынскага роду, а уон азначае (сапраўды) існуючы г.зн. дзеепрыметнік незалежнага стану ад еінаі = быць. Адкуль гэта ўзялося? Адказ маем у другой кнізе Майсеева Пяцікніжжа (Выхад 3: 13-14) „Бог сказаў Майсею: Я — Існуючы (Егова)... Скажы сынам Ізраіля: Існуючы мяне паслаў". Гэта быў голас Бога-Айца. У дагматыцы правільна кажуць, што Ісус Хрыстос — Богачалавек г.зн. напалову трансцэндэнтны і напалову іманэнтны, але тутака націск паложаны на Боскасць Месіі. Калі б хто веры, што Ісус быў толькі Богам, тады ён монафізіт, а гэта праваслаўе адкідае. З другога боку ў царкве чуем: „Владыко Господи Іисусе Христе Боже наш", а ніколі „Богочалавече наш".

Наша вера „грэчаская", таму і 24 літары алфавіта не забаронена нам ведаць. А без усялякае навукі ўжо ведаем а, в, г, д, е, і, к, л, м, о, п, р, т, ф, х.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# У дзень Уваскрэсення

**Хрыстос уваскрос! З радасцю адказваем: Сапраўды ўваскрос!**

Перажываем пасхальную радасць — вынік перамогі Уваскрэслага Хрыста над смерцю. Гэта свята перамогі Госпада нашага Ісуса Хрыста. Пераможаным стаў д'ябал, а чалавецтва напаўняецца радасцю ад гэтай праўды. „Уваскрос Хрыстос і ўпалі дэманы. Уваскрос Хрыстос і радуюцца анёлы", — заклікае Праваслаўная царква словамі св. Іаана Златавуста.

Радасць Уваскрэсення — гэта радасць ночы, якой цемру рассвятляюць сотні тысяч свечак. Ноч тады гэта не ноч, а смерць — не смерць. Спяваем: „Хрыстос уваскрос з мёртвых, смерцю смерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыццё дараваў". Вялікдзень — радаснае свята і таму, што прадвяшчае жыццё. Уваскрэсенне адбылося пасля смерці, папярэджанай здрадай аднаго з вучняў, здзекамі, пакутамі і смерцю на крыжы.

Радасны дзень Уваскрэсення ў Праваслаўнай царкве канчаецца ўсяночнай службай, падчас якой чытаецца радкі Евангелля ад Іаана: „Калі не ўбачу на руках у Яго ранаў ад цвікоў, і не ўкладу пальца майго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі маёй у рэбры Ягоныя, не паверу" (20: 25). Гэта апостал Фама не мог спачатку паверыць, але праз восем дзён паверыў, так як пазней паверылі многія. На іх вопыце заснавана і наша вера.

Для многіх Уваскрэсенне — адно з царкоўных святкаванняў, звычайнае штогадовае свята. Не ўсведамляюць яны, што Крыж і Уваскрэсенне здзейсніліся дзеля нас. Уваскрэсенне Хрыстовае ўпэўнівае нас у нашым уваскрэсенні. А паколькі і мы ўваскрэснем, тады сэнс набывае ўся творчая дзейнасць чалавека на зямлі. Хрыстос вядзе нас ад смерці да жыцця вечнага, з зямлі на неба.

Абазначае гэта таксама адмену нашых адносін да іншых людзей. Перамога над смерцю — знішчэнне варожасці, нянавісці паміж людзьмі. Там дзе царствуе варожасць, затрыумфуе зразуменне і любоў. Уваскрэслы Хрыстос узмацняе ў нас станоўчыя якасці.

Хрыстос сапраўды ўваскрос!

**Міхал Мінцэвіч**

# Дакручвалі гайкі

**Успаміны Аляксандра Харкевіча з Лешукоў.**

Да вайны ў нашай вёсцы людзі займаліся галоўным чынам гаспадаркай, хаця былі і рамеснікі. Былі печнікі, кавалі. Быў таксама адзін калеснік, які колы для вазоў вырабляў. Калі выпрадукуе цэлы воз тых колаў, тады вязе іх у Заблудаў; там ён прадаваў іх жыдам. Пасля расплаты наведваў карчму і дадому вяртаўся з грашыма або і без.

У верасні 1939 года ўвайшлі да нас саветы. Мы, маладыя, падаліся на чыгуначную станцыю ў Нараўку вітаць іх. Прыехаў паравоз з вялікай чырвонай зоркай наперадзе. Салдаты даюць нам курыць:

— *Держи шапку*!

Насыпалі жменю адну, другую. Мы даем ім *бумажки*, паглядзелі яны на іх і кажуць:

— *В это не свернём.*

І завярнулі тытунь у газеты. Сказалі нам, што ў Ваўкавыску адбудзецца авіяпарад. Дык мы селі на поезд і паехалі ў Ваўкавыск. У першым класе і без білета, бо ж уяўлялі сабе, што пры саветах плаціць не трэба. А ў Ваўкавыску нас арыштавалі, але зараз і выпусцілі. Выйшлі на горад, ніякага параду няма, затое па вуліцах ступаюць жыды з чырвонымі бантамі і запрашаюць каб далучыцца да іх. Пайшла чутка, што той парад адбудзецца ў Беластоку і некаторыя з нашых паехалі ў Беласток.

У саракавым годзе пачалося раскулачванне тых, што мелі больш за дзесяць гектараў зямлі. У мяне былі тры каровы і бычок. Прыйшоў да мяне *председатель* і заявіў, што майго бычка трэба здаць у Ваўкавыск, у падарунак таварышу Сталіну. Назначылі фурмана з фурманкай і яшчэ хлапчука, каб паганяў. Вывелі яны таго бычка за вёску, а ён фурманку вывернуў. Пасходзіліся людзі і неяк тую фурманку наладзілі. Бычка здалі, але ніякіх грошай за яго мне не вярнулі.

Неўзабаве загадалі мне здаць карову; павёў я яе цяпер сам у Свіслач. Павёў я сваім канём. У Свіслачы калейка! Падышоў да мяне чалавек, распытаў адкуль я і кажа:

— Ідзіце за Свіслач, там загарада з каровамі, ніхто іх не корміць...

Заглянуў я туды, а там ужо дваццаць восем кароў здохла. І зноў усе каровы, што ў той дзень пабралі, загналі ў тую загараду.

У Луку савецкія начальнікі прыехалі выбіраць старшыню сельсавета і заявілі, каб гэта быў *лучший из лучших*. А людзі ведаюць, што яны багатых не любяць і запрапанавалі двух братоў Новікаў; кожны з іх меў па тры гектары. Пытаюць начальнікі першага:

— *Сколько земли*?

— Тры гектары.

— *Что держишь*?

— Тры авечкі, каня, карову і цялушку.

— *Садись. А у тебя сколько*? — пытаюць другога.

— Тры гектары.

— *А что держишь*?

— *Ничего.*

— *Вот каких нам нужно — это лучший из лучших*!

І выбралі яго.

Другім разам прыехаў да нас нейкі начальнік з Мінска пабачыць, як у нас людзі жывуць, і даведаўся, што адзін гаспадар здае ў малачарню сорак літраў малака.

— *То у вас такая сволочь есть, что сорок литров один сдаёт*!?

Як немцы гналі рускіх, дык пакідалі нам палонных з загадам глядзець іх як самога сябе. І нам папаў спярша адзін узбек — гаварыць не ўмее. Але як завялі яго на агляд у *каманда* ў Нараўку, ён астаўся ў млынара. Але трапіў нам другі, мізэрненькі — Ільюшка з Кузнецка пад Ташкентам. Жыў ён нейкі час у нас, гуляў з нашымі, нават паненку сабе падбраў. Але праз нейкі час забралі іх немцы. Людзі шкадуюць іх; падаліся мы ў Гайнаўку, у камендатуру, каб іх пусцілі назад. І прашэнне паказваем, у якім расхваліў я нашага Ільюшку. А яго няма: уцёк! І тады мяне ў падвал! А там кроў на сценах... Распытвае немец, хто ён мне.

— Ніякі сваяк, — адказваю, — але добры хлапец, я яго араць навучыў, дровы рэзаць, рубаць...

— *Lepiej ratować niż zabijać*, — сказаў немец і адпусціў мяне.

А той Ільюшка ўцёк — да нас! Што рабіць? Мельдаваць страшна... Я не мельдую і ён жыве ў нас, дровы на панадворку рэжам. Аж бачу: сем фураў немцаў едзе! Ён *драпнуў* на калёнію, а я таксама ўцякаю ў трэцюю ці другую хату. Зараз нашу хату акружылі, дзверы выбілі і рэвізія! Як яны на вёску ад'ехалі, я ў хату. А тут мне к каменданту загадваюць. Іду, а людзі кажуць:

— Пайшоў Аляксандр на смерць.

Заходжу, а камісар злосны сядзіць. Гавару я яму:

— Ільюшка вярнуўся і сказаў, што яго немцы ка мне адпусцілі. Але калі вас пабачыў, то ўцёк. Відаць, наілгаў ён мне...

— *To proszę powiedzieć, że on od nas nie ucieknie. I jak przyjdzie, to żeby u nas na komendzie się zameldował.*

Пасля той Ільюшка яшчэ нейкі час жыў у нас пакуль іх усіх немцы не пазабіралі.

4 сакавіка 1943 года жыхараў Міхнаўкі і Лешукоў немцы вывезлі ў Беласток; жылі мы па вуліцы *Durchfahrstrasse*. Калі пасля вайны вярнуліся назад, не было ў нас ні кала, ні двара. Як хочаш, так будуйся; ніякай дапамогі.

Сталі ў нас арганізаваць калгас, назвалі яго „Іскра"; запісаліся ў яго тыя, што нічога не мелі — яны ахвотныя былі ісці ў начальнікі. А тым, што не хацелі пісацца ў калгас, падвойвалі падаткі і саджалі ў арышт. І мяне пасадзілі, бо дзевяць чалавек, нашых, падпісаліся, што я ўсё на рынку прадаю, а дзяржаве — ніц! З арышту выпусцілі, як у калгас запісаўся.

Зрабілі абору, купілі кароў, бо сваіх яшчэ не аддавалі; спярша было пяць кароў, а пасля сем. Але мелі забраць і коней ад нас. Зрабілі сход у школе, дзверы заперлі, каб ніхто не выйшаў і кажуць, што коні — гэта вялікая страта для калгаса. Я ўстаў і пытаю, чым мы будзем араць, бо ж абодва трактары пастраглі. Неяк паслухалі мяне і коні засталіся пры нас.

Далі нам вязалку і загадалі збожжа касіць. Дождж ідзе, а мы жнем. Збожжа мокрае, але жаць трэба. Снапы кідаем пад колы трактароў, бо коўзаюцца на дажджы. Накасілі, паставілі ляшкі. Падуў вецер, ляшкі нашы развалілі-ся, ніхто іх не падымае, ляжаць. Звозім у скірду класці. Найшла хмара, а мы скірду кладзем у дождж. Малаціць узяліся, прыехалі дваццаць адзін чыноўнік з ваяводства і павета, а ўсё збожжа пазрасталася, нічога не выходзіць. Я пытаю іх, што за сэнс малаціць, калі ўсё прапала. А пракурор на мяне:

— O, kto wodę mąci!

На днёўку выпала нам па тры кілаграмы гнілаватага аўса. І як хоч, так жыві.

Прычапіліся да мяне, быццам я грошы на царкву збіраў, а я не збіраў ні ў адной хаце. У Вялікую пятніцу зрабілі суд у Бельску і засудзілі мне штраф; на сённяшнія грошы нейкія тры-чатыры мільёны. А бацюшка, ён хіба партыйны быў, столь і шалёўку з царквы абабраў і прадаў. Я ў гэтай справе паехаў у мітраполію і за гэта менавіта мяне і засудзілі. Пасля сакратар з Ляўкова пытае мяне:

— І што, будзеш яшчэ ў царкву хадзіць?

— Я ў царкву хадзіць не перастану, — адказаў я.

Як настаў Гамулка і дазволіў распусціць калгасы, у Польшчы раскідалася дзесяць тысяч калгасаў за адзін дзень. І ў нас стварылі ліквідацыйную камісію і старшынёй яе назначылі мяне. З Беластока ліквідаваць наш калгас прыехаў агітатар, які раней заклікаў каб тым, што не хочуць у калгас, усё больш дакручваць гайку.

— I do czego pan dokręcił? — пытаю я яго.

Сталі мы прадаваць кароў, бо калгас задоўжаны. Прыехалі да мяне начальнікі, каб я абору купляў за 200 тысяч, але я адказаўся. Пазней тая абора трапіла ў *кулко*, а нядаўна купіў якісь бізнесмен за нейкія пяцьсот мільёнаў і мэблю вырабляў немцам і жыдам. А цяпер думае зрабіць там гатэль з півярняй, музыкай і танцамі.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

**Якія мы людзі**

# Фатэль

Калі маладая жанчына, лекар-гінеколаг, выйшла з прыватнага кабінета, у якім прымала пацыентаў адну гадзіну ў тыдзень, на вуліцы нясмела падышла да яе пажылая, па-вясковаму апранутая жанчына і запытала, як тут трапіць да доктара.

Праўда, на будынку вісела шыльда з вялізнымі літарамі: „Лекары", але як жа старой было туды трапіць, калі і ўваход быў са двара і кабінеты размяшчаліся на другім паверсе... Але магчыма, што жанчына проста прыйшла ў разведку. Бо і куды тут кінуцца пасля гэтай рэформы... Вясковаму чалавеку заўсёды вецер у вочы.

Яна тапталася нерашуча на месцы, здавалася, што хацела атрымаць лекарскую параду адразу тут, на тратуары. Канкрэтна, аднак, нічога не прасіла, вагалася.

— А што вам баліць? — спыталася лекарка па-беларуску, бо адчула ў гэтай жанчыны моцны беларускі акцэнт. А Божачкі, то і тут нашы людзі працуюць, уцешылася старая. І ўжо было ёй смялей. Параіцца хацела я, бо жывот баліць, сказала яна, і там пячэ. А мо гэта нервы...

Вам трэба было б зрабіць аналізы, сцвердзіла доктар. А якія? — жахнулася жанчына. Лекарка пералічыла. А дзе ж мне іх, вясковай бабе, зробяць у Беластоку, я ж тут у гасцях у нявесткі. Калі вы тут не жывяце, дык найлепш у „Эскулапе". Трэба будзе заплаціць, і ўсё вам зробяць. Пасля прыходзьце да мяне, параіла лекарка. Жанчына яшчэ крыху нерашуча патапталася.

Яна прыйшла ізноў толькі праз месяц. Лекарка ўжо канчала працу ў кабінеце, бачыць, вядуць нейкія людзі да яе тую жанчыну. Усё ж такі сама не адважылася, падумала яна, папрасіла людзей знізу. Ну, заходзьце, прывітала яна старую.

Было відаць, што вясковую жанчыну, якая ў жыцці лекара не наведвала, у гэтым кабінеце з розным абсталяваннем агарнуў жах. Са страхам пазірала яна на гінекалагічны фатэль, які стаяў пасярэдзіне кабінета, як галоўны яго элемент.

Жанчына паказала лекарцы вынікі аналізаў і пачала расказваць пра сваё жыццё. У снежні, кажа, толькі пахавала мужа, цыганка мне даўно вываражыла, што я буду ўдавою. А пасля, зараз жа за ім пайшоў у зямлю і сын. Трыццаць пяць гадоў яму ўсяго было, нежанаты яшчэ. Рак лёгкіх! Другі сын у Амерыцы цяпер, дык мяне нявестка ў Беласток на трохі ўзяла, каб мне весялей было, ды і дзяцей ёй мо прыпільную. Ёсць і дачка, а як жа. Але ж яна, бедная, больш за мяне хворая.

Распранайцеся і сядайце на фатэль! — загадала лекарка. А панечкі, ці ж я мушу адразу на фатэль? — спалохалася жанчына. Яна гаварыла на добрай беларускай мове, бо яе родная вёска знаходзілася недалёка Нараўкі.

А як жа я вас пагляджу?! — не здавалася лекарка. А нельга было б так, каб вы толькі глянулі ў паперы ды каб не сядаць на фатэль?! — упіралася пацыентка. Пэўна ж, як сяду на фатэль, дык заплаціць трэба будзе, га?

Здымайце ўсё ад нізу, ды сядайце, кажу вам! Я ж не чарадзей, што гляну вам у вочы і пастаўлю дыягназ, — лекарка адчувала да гэтай сямідзесяцігадовай жанчыны сімпатыю. А, зрэшты, вунь муж ужо мяне чакае, сказала яна.

Бадай, той аргумент, што „муж ужо чакае" найбольш пераканаў жанчыну, што прыйдзецца ўсё ж на той фатэль сесці.

Панечкі, толькі што сорак дзён па сыну спраўлялі, не маю ані граша. Усё выдала — жанчына ніяк не магла супакоіцца. Не хвалюйцеся пра грошы, галоўнае, каб вас тут выслухаць, стрымлівала яе лекарка. Яна дакладна агледзела жанчыну, якая яшчэ цалкам добра выглядала, каб не хвароба — можна было б ёй даць нават і пяцьдзесят пяць.

Я б вам гасцінец мо павінна хаця даць. Але што ж, дваццаць вулляў мелі, а куды ўсе пчолы адляцелі, не ведаю. Заходжу ў хлеў — карова ляжыць, — жанчына, хаця хвілёва жыла ў горадзе, то думкамі была на вёсцы, на сваёй пахіленай сядзібе. Заязджайце да мяне ў госці! — жанчына падала вёску і нумар дома. А мо домік над залівам маеце? А-а-а, яшчэ не маеце? То прыязджайце да мяне!

Жанчына без дапамогі лекаркі сышла з фатэля і апранулася. А дзяцей маеце? — спытала яна. Маю дачку, адказала лекарка. Мала аднае! — жанчына нарэшце магла шчыра пагаварыць са сваім чалавекам у гэтым чужым ёй Беластоку.

Неяк яна суцішылася, адчула сябе лепей. Лекарка выпісала ёй рэцэпт на нейкую мазь за два пяцьдзесят. Пасля пакорпалася ў шуфлядзе і дала ёй два дарагія лекі, якія якраз рэкламавала адна з фармацэўтычных фірм. Зайдзіце, калі ласка, праз два месяцы! — запрасіла яна хворую жанчыну. Я заўсёды прымаю ў гэты дзень.

Усё гаварыла за тое, што сёння жанчыне пашанцавала і яна павінна цешыцца. А яна расплакалася.

**Ада Чачуга**

# Па камуне я не сумую

Сёння, пры дэмакратыі, маем свабоднае права выказваць свае думкі як хочам і за гэта ніхто да нас не прычэпіцца; а гэта ўжо вялікі крок наперад! З увагай прачытаў я публікацыю-адгалоску пяра Уладзіміра Сідарука п.з. „Разважанні пра мінулае” („Ніва” н-р 9). З яго высновамі, напісанымі добра і слушна, я згодны і нічуць не хачу падрываць іх правільнасці і аўтарытэту. Цяпер хачу коратка выказаць свае разважанні пра мінулае і як сёння цячэ гэты ручай жыцця. Я сам ужо не ведаю, хто ў Польшчы разваліў камуну: каталікі, ці мо праваслаўны люд. Мо і праваслаўны, калі ён не адважыўся выпісваць у гарадах „Камуна вярніся”. Хаця гэта можа мала важна, бо калісь і ў нас на платах і сценах пісалі адно брыдкае слова. Але хто пісаў? Пераважна бескультурныя дзецюкі, але на гэта не варта траціць час. А хто пры камуне жыў багата — сёння ён яшчэ багацейшы, а хто жыў бедна — той яшчэ бяднейшы. На жаль, гэта права джунгляў і чалавечай дзікасці ды неміласэрнага сэрца. А яшчэ ў нас і ў іншых краінах колішняй сацыялістычнай садружнасці ідзе пастаянная палітычная барацьба і ціхая рэвалюцыя, бо як жа можа быць, каб слаўны камунізм счэз без аднаго выстралу? Цёмныя сілы: камуністы з людскім рылам і рэакцыя з розных лайдакоў — яны ў адно: вядуць барацьбу з прагрэсіўнымі сіламі дэмакратыі. І таму тыя, што ў мінулай эпосе жылі „па меры магчымасцей”, зараз апынуліся за рысай беднасці; з гэтай высновай я цалкам згодны. Камуністы таго і чакаюць і вядуць работу, каб людзям жылося як найгорш у новых абставінах; маўляў: цешцеся сваёй дэмакратыяй! І пакуль усіх камуністаў з людскім рылам і розных лайдакоў не прагоняць ад руля ўлады, датуль у нас не будзе парадку і дабрабыту. Селяніну тады жылося сапраўды лепш, як сёння, але мала хто ўспамінае эпоху Берута і Гамулкі. Як тады мы жылі? Пры Герку Савецкі Саюз закабаліў амаль паўсвету і трэба было プракармiць гэтыя „свабодныя ад аковаў” галодныя горлы. Таму наш сусед купляў ад нас усё без разбору і мы такім чынам разбагацелі і пабудаваліся. Але як будаваліся? Мо ўжо забылі, але я помню, бо і сам будаваўся: кожны будаўнічы матэрыял і сельскагаспадарчыя машыны былі на надзелы. І трэба было прасіць ласку ў гміннага царыка. Мо ў Чаромсе гэтага не было, магчыма, што там усё было ідэальна. Але ў нас? Адзін такі меў улады больш за расійскага цара Мікалая II; колькі я горкіх слоў пачуў ад яго — не пералічыць. Я мог агрызнуцца яму і ён таго чакаў, каб зараз пазваніць на пошту ў Гайнаўку да свайго таварыша, які намі правіў, і вымагчы ад яго звальненне мяне з працы. Таму я нічуць не сумую па камуне.

**Мікалай Панфілюк**

# Як жа страйкаваць пенсіянерам?

Можна смела сказаць, што да страйкаў прымушае народ сам урад. Калі баставалі гарнякі, дамагліся „пакета” для горназдабываючай прамысловасці і мільёнаў злотых з дзяржаўнага бюджэту. Страйкавая акцыя настаўнікаў закончылася дабаўленнем ста злотых да месячнага акладу асветных работнікаў. Пасля сялянскіх блакад на важнейшых дарогах урад знайшоў грошы на інтэрвенцыйную скупку свіней і паабяцаў больш сур’ёзна заняцца сельскай гаспадаркай. Нямнога адваявалі лекары-анестэзіёлагі, але і ў іх адбыліся станоўчыя змены. Вывад з гэтага адзін: хто страйкуе, той дабіваецца ажыццяўлення сваіх пастулатаў!

У найгоршай сітуацыі апынуліся пенсіянеры. Хаця атрымоўваюць яны невялікія грошы, за якія цяжка пражыць, аднак ім не пад сілу арганізаваць пратэстацыйныя акцыі. А на нашых вёсках многія пенсіянеры жывуць за 12,80 зл. у дзень. З гэтых 384 зл. у месяц пераважную частку трэба аддаць на розныя аплаты, у тым ліку за электраэнергію, тэлефон, тэлевізар, а галоўным чынам на лякарствы. На харчаванне пенсіянерам застаецца зусім мала. Не абараняюць іх ні партыя пенсіянераў, ні такі ж прафсаюз, бо пенсіянеры патрэбныя ім толькі падчас выбарчых кампаній.

Дзяржава павінна забяспечыць належныя сацыяльныя ўмовы маламаёмным слаям грамадства. З назіранняў відаць красамоўна, што ўлады лічацца толькі з моцнымі, якія ўмеюць дамагчыся свайго шляхам забастовак. Вяскоўцы з сентыментам успамінаюць Герка, пры якім сяляне ўпершыню атрымалі правы на пенсіённае забеспячэнне, і баяцца каб таго, што дала ім камуна, не страціць пры сённяшняй дэмакратыі.

**Мікалай Лук’янюк**

# Адвентысты запрашаюць у белліцэй

Касцёл адвентыстаў Сёмага дня, Радыё-тэлевізійны цэнтр „Голас надзеі” ды Польская асацыяцыя „Здаровая сям’я” запрашаюць на серыю вячэрніх спатканняў пад загалоўкам „Новае жыццё”. Сустрэчы будуць весціся спецыялістамі з ЗША штодзень (апроч 11 і 12) да 25 красавіка ў будынку ліцэя па вул. Пілсудскага 3 у Гайнаўцы, ад 18 гадзіны.

Штодзень прапануецца іншая праграма на тры розныя тэмы: **Пра здароўе** — у праграме м. інш.: *Ці ведаеш, як дадаць гады да ўласнага жыцця? Як мець больш здароўя і радасці жыцця? Як займець больш імунітэт ад хвароб? Ці пагражае табе інфаркт (zawał serca)? Як асцерагчыся ад рака?* У рамках гэтай праграмы — бясплатныя кансультацыі. **Пра сям’ю** — *Практычныя спосабы і парады, якія шчаслівым умножаць шчасце, а тым, хто толькі марыць пра яго, падкажуць, якой дарогай варта крочыць.* **Пра веру ў Бога** — праграма ахоплівае пятнаццаць важных для хрысціяніна тэмаў і спраў, між іншым: *Сем таямніц хрысціянскага жыцця. Касмічныя гонкі — ці чалавек дасягне неба? Бог — добры, наўкол — зло, чаму?*

У час праграмы можна купіць аўдыё- і відэакасеты, багатыя зместам кнігі пра здароўе, сям’ю і веру.

(лук)



# Вер — не вер

Дарагі Астроне! Прыснілася мне вайна. Праўда, я яе не бачу, але ведаю, што вайна ідзе. Быццам нашу вёску маюць спаліць. Яна не цяперашняя, а выглядае як калісьці, перад вайной.

Мы збіраем рэчы, пагружаем іх на фурманкі. Я кажу, што яшчэ не развіталася з усім, што застаецца тут. Дык сыходжу з фурманкі, развітваюся з хаткай, іду да вялікіх, тоўстых ліпаў, абымаю іх і цалую. Развітваюся з імі.

А маёй маме прыснілася, што мае быць маё вяселле. Яна з вялікімі пакункамі ідзе пад горку. Ёй вельмі цяжка. Неяк яна ўзлазіць на вялікую гару.

Скажы, Астроне, што нас чакае?

**Майка**

Даражэнькая Майка! Твой сон вельмі паэтычны, відаць, што ты — чалавек глыбокіх думак і пачуццяў. Вы ўцякаеце ад ворага, а ты думаеш пра тое, каб развітацца з роднай хатай, з прыгожымі ліпамі. А хто ж бы ў такі момант думаў пра такія справы... Хутчэй за ўсё чалавек бы ўцякаў куды вочы глядзяць. Але не з тваёй паэтычнай душой! Ты ведаеш, што вашу вёску вораг будзе паліць, а ўсё роўна сыходзіш з гатовай да ад’езду фурманкі і рашаешся развітацца з усім, што было табе блізкае.

Усё гэта аднак не ратуе цябе ад непрыемнасцей, якія будуць звязаны з гэтым сном. Бо сніць вайну, бачыш, нядобра. Абазначае яна, што ў тваіх справах (мо на рабоце) шмат суперніцтва і ўскладненняў. Цяжка табе ва ўсім гэтым.

Што датычыцца сну тваёй мамы, дык ён як бы пацвярджае твой сон. Калі мае быць тваё вяселле, дык, значыцца, меравіта ў цябе вынікне нейкая сварка з некім важным. Будуць сапраўды вялікія цяжкасці, бо маці ішла з пакункамі пад горку і ёй было цяжка. Крыху надзеі дае тое, што яна на тую вялікую гару ўсё ж узлезла.

**Астрон**

# Гмінная статыстыка

На тэрыторыі Чаромхаўскай гміны пражывае каля 4 300 жыхароў. Як паказвае гмінная статыстыка, у чаромхаўскіх вёсках больш людзей памірае, чым прыходзіць на свет. Для прыкладу, калі ў 1997-1998 гадах нарадзілася 70 дзетак, дык развіталася з гэтым светам 112 чалавек. У той жа час пажаніліся 29 параў. Трэба адзначыць, што пасля ратыфікацыі канкардату змяніўся і закон аб шлюбах. Зараз не абавязвае месячны перыяд да прапіскі. Каб звянчацца ў царкве (ці ў касцёле) неабходнае пасведчанне з гміны аб *braku okoliczności wyłączających zawarcie związku małżeńskiego*. На аснове гэтага пасведчання адбываецца царкоўны шлюб, а дакумент святар вяртае ў гміну. Тады і чыноўнікі гміннай адміністрацыі праводзяць рэгістрацыю ў актах грамадзянскага стану.

Як штогод Чаромхаўская гміна арганізуе сустрэчы для юбіляраў, якія адзначаюць „залатое вяселле”. Сёлета 16 параў будуць адзначаць юбілей 50-годдзя супольнага жыцця. Ужо ў красавіку г.г. пяць першых юбіляраў атрымаюць ганаровыя медалі, прысвоеныя Прэзідэнтам Рэчы Паспалітай. Апошнім медалі ўручаны будуць восенню.

(ус)

# Было гэта даўно

Было гэта даўно, але не легенда, гэта Божая гісторыя і вєрна, калі Ісус Хрыстос па зямлі хадзіў і на сабе звычайную вопратку насіў, як Божы слуга. Не знойдзем лепшага друга! Хадзіў, працаваў, і план збавення душы ўсім даваў. Гэта Яго цудоўнае слова — Жывое Евангелле, да Неба дарога. Усім гаварыў, павучаў, Сваіх верных вучняў сабіраў, хадзілі па сённяшнім Ізраілі, Палесціне, дзе вечныя пяскі, гарачыя даліны... А Мёртвае мора — сведак мінулых часоў, якое не ў сілу перадаць эпоху Хрыстовых слоў. А Галілейскае мора помніць Яго пераплыў — многім тут грэшнікам дарогу адкрыў. А рака Іардан хрышчэнне Сына Божага помніць і гэтай цудоўнай веры ніхто не зломіць. Хрыстос распавядаў праўду далёка, перад Ім не было такога магутнага прарока, бо Ён ёсць Сынам Божым, сышоўшым з Нябёс і толькі Ён адзін змог адмяніць наш лёс. Менавіта на Галгофе Ён гэтага даканаў і смяротную нітку парваў. Яго мучылі, білі, на яго плявалі і ахвяраю Хрыстовай пагарджалі. Яны не верылі, што Ён несмяротны і ўсім нам, грэшнікам, брат добры і родны.

Сваёй смерцю Ён нам дараваў жыццё вечнае, ды ўваскрос і жыве ўвесь час у кожным месцы.

**Мікалай Панфілюк**

# Вуліцы страху

У Гайнаўцы нямала такіх вуліц, якія пакрыты асфальтам, але няма пры іх ні аднаго метра тратуараў для пешаходаў. Да такіх належаць, між іншым, вуліцы Пaддольная і Дольная. Сюдою ездзяць многа аўтамабіляў, пасажырскіх аўтобусаў ПКС, дзеці ходзяць у школу, а дарослыя — на работу. Усе рызыкуюць сваім жыццём і здароўем, паколькі вымушаны хадзіць праезджай часткай вуліцы і сыходзіць перад кожным самаходам на вузкую абочыну. Найбольш небяспечна хадзіць уночы.

— Аднойчы прывезлі тратуарныя пліты на вуліцу Дольную, — кажа Яўген Алексяюк. — Паляжалі яны, паляжалі ды так і зніклі недзе. Тратуараў як не было, так і няма ды невядома калі яны тут будуць. Нам, бацькам, вельмі залежыць, каб нашы дзеці маглі бяспечна хадзіць у школу.

(гай)

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Мал. Алега* КАРПОВІЧА

## Люстрацыя

Маем сёння дэмакратыю,
Плюралізм, прыватызацыю
І свабоду слова маем
І што хочам вычаўпаем.
А народ у нас усякі:
Левы, правы і ніякі
І хто на што мае ахвоту,
Так бярэцца за работу.
Адзін любіць смачна з'есці,
Другі з дзеўкаю прысесці,
Трэці любіць кульнуць чарку,
А чацвёрты любіць сварку
І так навядзе „культуру",
Што узніме авантуру.
І заўсёды мае рацыю,
Бо праводзіць ён люстрацыю;
Без інструкцыяў з Варшавы
Ў свае рукі бярэ справы.
Як Вышынскі-пракурор
На ўсіх мае прыгавор:
Той народу вораг дзікі,
Той зноў бальшавік вялікі,
Той лайдак і камуніст,
Той нікчэмнік-лукашыст,
Там — люты рэакцыянер,
А там — міліцыянер!
Недзе ёсць і добры люд —
Дык напэўна ён не тут;
Пісні тут ты толькі слова —
Ужо лайдак ты адмысловы.
Сам люстратар — без заганы!
Барацьбіт загартаваны,
Як калісь Марозаў Паўлік —
Слушнай справы ён настаўнік.
Так вядзе за справу бой
Наш праведнік-разгерой.

**Адам МАНЬЯК**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. капялюш або дзяржава, 7. сталіца Польшчы, 8. Дыега, мексіканскі мастак (1886—1957), 9. індыйская народная эпапея, 10. рыба ўсходніх узбярэжжаў Ціхага акіяна, 14. Кальман, венгерскі пісьменнік (1847—1910), 18. вулкан на Новай Зеландыі, 2796 м., 19. падвесны асвятляльны прыбор, 20. слізістыя выдзяленні з дыхальных шляхоў, 21. мыс на Ругене, месца славянскага язычніцкага культу.

**Вертыкальна:** 1. колькасць членаў дастатковая для прызнання сходу правамоцным, 2. яго доля — сабача, 3. па ёй пазнаць пана, 4. урачысты агляд войск, 5. вадкасць насычаная рэчывамі тых прадуктаў, што ў ёй варацца, 6. турэцкі султан, заснавальнік корпуса янычараў (1326—89), 11. варварскі палкаводзец у рымскай службе (433—493), 12. опера Карла Марыі фон Вебера, 13. Павел, расейскі металург (1820—69), 15. вялікі ўсходнесібірскі алень, 16. газіраваны фруктовы безалкагольны напітак, 17. апорная бэлька, якая падтрымлівае столь.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 9 нумара**

**Гарызантальна:** бульба, Рамана, засада, Іран, аніс, Келемегдан, Гата, імам, знаўца, Яновіч, навела.

**Вертыкальна:** буксір, база, рада, надпіс, Саломенцаў, анкета, ананім, галян, ампула, зніч, цана.

Рашэнне: **Максім Багдановіч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## *Кароткі курс параноі*

### З-за „Сцяны"

**Апаратыўныя**

Яшчэ не ўсе паспелі ачуняць ад грыпу, які прайшоўся па Беларусі, а ўжо па кватэрах хадзілі падлікоўцы і рабілі перапіс насельніцтва краіны.

**Дайшлі да розуму**

Урэшце Савет Еўрапейскага Саюза дайшоў да розуму і адмяніў візавыя абмежаванні на ўезд у краіны ЕС службовых асоб Рэспублікі Беларусь. 129 высокапастаўленых чыноўнікаў зноў могуць вольна гуляць па Еўропе і падглядаць азызленых еўрачмутаў.

**Заслужаны самбіст**

За ўклад у развіццё аматарскага самба выканкам Міжнароднай федэрацыі аматарскага самба ўзнагародзіў Аляксандра Лукашэнку „Залатой зоркай". Заслужаны самбіст паабяцаў, што не застанецца ў даўгу.

**Дзе ні кінь — то клін**

На працягу мінулага года на заробкі за мяжу выязджала 3 692 грамадзяніны Беларусі. Аднак, як гаворыцца ў інфармацыі Міністэрства працы, ніхто з іх не разбагацеў.

**Што б гэта значыла?**

Кватэры ў Мінску цяпер купляюць адзінкі, а прадаюць іх на рынку жылля ўжо сотні і нават тысячы прадаўцоў.

**Актывізацыя**

Амаль чатыры гады праіснавала на паперы Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя. У выніку таго, што нічым сябе не зарэкамендавала, Вярхоўны Суд Беларусі ліквідаваў яе. Такім чынам пачалася актывізацыя 27-і палітычных арганізацый, якія засталіся ў краіне.

**Прырост**

Штогод ваўкі знішчаюць у Беларусі каля 18 тысяч дзікоў, ласёў, казуль і аленяў. Штогод адстрэльваецца больш за тысячу шэрых драпежнікаў. Аднак калі ў 1990 годзе ваўкоў было 1 836, то ў 1998-м — звыш дзвюх з паловай тысяч.

І грыпу на іх няма!

**Сідар МАКАЦЁР**

***Факс „лімаўца" Марціна Коўзкага:***

**Што было раней**

— Дзед, што было раней — яйка ці курыца? Калі яйка, дык хто яго знёс, калі курыца, дык адкуль яна вылупілася?

— Не ведаю, хлопча, хто цябе дурыць, але раней было ўсё — і яйкі, і куры.

**Адвечная мара**

— Хто больш за ўсіх марыць стаць вялікім? — спыталіся высокага.

— Асноўным чынам нізкі, — адказаў высокі.

**Фрашкі пра нашых**

## *За Усярусь!*

Хто засеў у лебядзе,
Ў асаты хто з лайнамётам,
Ноччу хто, а хто — у дзень
У крапіўнік лёг пад плотам...

Вочы вырачыў як рак,
Вусы выставіў як вусень.
Усіх цягнем пад свой знак:
Nie addamy Usiarusi!

Дзе была яна і ёсць?
Папытайце у мандрэйшых.
А мандрэйшы — taki gość,
Самы свойскі ён з тутэйшых.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

— Здароў, Вася! Учора я праходзіў каля твайго дома і вельмі здзівіўся: ва ўсіх вокнах гарэла святло і грала музыка на ўвесь голас. Спраўляў ты баль пасярэдзіне тыдня?

— Незусім. Заўтра вяртаецца з санаторыя мая жонка і я хацеў, каб яна не скумекала, што я расходаваў мала электраэнергіі.

— Ці гэта дрэнна?

— Бо з гэтага яна зрабіла б выснову, што мяне ўвесь час не было дома.

* * *

— Мой муж захапляецца ўсім маім: маімі губамі, валасамі, паходкаю, вопраткай...

— А ён табе чым імпануе?

— Сваім шчодрым жэстам.

* * *

— Здароў, Мішка! Чуў я, што ты ажаніўся... Як цяпер табе жывецца ў сужонстве?

— Жахліва! Жонка з цешчаю забаранілі мне курыць і піць гарэлку дома ды склікаць сяброў.

— Ой! Плакаць хочацца...

— І плакаць таксама забаранілі.

* * *

Жонка робіць пакупкі ў вялікім магазіне. Муж нервуецца:

— Купіла ўжо новыя плашч, спадніцу, сумку... Ці ты ведаеш, да чаго мяне давядзеш?

— Вядома: пойдзем у абутковае аддзяленне.

* * *

Мікола выбіраецца ў камандзіроўку; жонка дае яму апошнія настаўленні:

— І помні: не растрачвай грошай на тое, што маеш дома дарам!

* * *

— Усе гавораць, што ўсе маладыя дзяўчаты хочуць выйсці замуж. Аднак ёсць многа прыгожых дзяўчат, якія гэтага не хочуць.

— Адкуль гэта ведаеш?

— Прапанаваў ім.

* * *

Пасля дакладных агледзін хворага лекар выпісаў рэцэпт і тлумачыць, як трэба прымаць лекі:

— Адну зялёную пілюлю штодзень раненька запіць шклянкаю вады, адну сінюю пілюлю пасля абеду запіць шклянкаю вады і адну чырвоную пілюлю перад сном таксама запіць шклянкаю вады.

— Пан доктар, а што ў мяне за немач?

— П'еце замала вады.

* * *

Прыходзіць шкілет да лекара, а лекар дакарае:

— Чаму так позна?!

* * *

Унучак вязе бабульку на матацыкле. На кожным скрыжаванні дарог выцягвае ён руку і сігналізуе паварот. Бабулька не вытрымоўвае:

— Трымай парадачна руль! Як пачне ісці дождж, тады табе скажу.